

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 582-583 Ліпень-Жнівень 2011 г.
Год выданьня 61


## Паважаныя чытачы!

Перад вамі новы падвоены нумар газэты за ліпень-жнівень. Летнія вакацыі скончыліся і Рэдакцыя ізноў прыступіла да сваёй працы.

На жнівень месяц сёлета прыпала вялікае сьвята – 20-я гадавіна аднаўленьня незалежнасьці Беларусі . Рэдакцыя віншуе усіх вас з гэтай вялікай датаю і прысьвячае значную частку сваіх старонак гэтай падзеі.

За прамінулыя два летнія месяцы адбылося шмат новых падзеяў як на нашай Бацькаўшчыне, так і ў беларускім замежжы і па цэлым сьвеце.

На жаль, мы не можам парадаваць вас добрымі навінамі пра сытуацыю ў Беларусі. Наадварот, яна зьмянілася да горшага – рэжым узмоцніў пераслед усіх праяваў супраціву, нават маўклівага, палітычныя вязьні застаюцца за кратамі і колькасьць іх узрасла, нарастае эканамічны крызыс. Найгорш, што беларускай апазыцыі і, можна сказаць, усяму нашаму народу апошнім часам давялося перажыць моцнае расчараваньне ў рэальнасьці падтрымкі з боку краінаў Эўразьвязу. Аказалася, што заявы і санкцыі кіруючых структураў Эўразьвязу супроць беларускага рэжыму не перашкаджаюць пэўным сілам у Эўропе мець свае інтарэсы ў Беларусі і супрацоўнічаць з лукашэнкаўскімі карнымі органамі. Пра гэта вы больш прачытаеце на старонках гахэты.

Наша газэта выдаецца беларускай эміграцыяй ў Амэрыцы і нам прыемна было падаць у ёй інфармацыю пра паслядоўную палітыку ЗША ў адносінах да беларускага дыктатара.

Актыўнасьць беларускай дыяспары ўлетку не зьменшылася і вы гэта пабачыце ў нашых публікацыях пра жыцьцё беларускіх асяродкаў.

Чытачы, якіх цікавяць тэма культуры, таксама знойдуць у гэтым выпуску шмат цікавага для інфармацыі і роздуму. Прыемна, што на нашыя просьбы дасылаюць нам свае публікацыі, творы, інфармацыі адгукаюцца ўсё больш нашых чытачоў.

Жадаем вам прыемнага завяршэньня летняга сэзону і запрашаем для далейшай плённай супрацы, каб наша выданьне сталася больш цікавым і патрэбным для нашых суродзічаў, каб гуртавала іх на чужыне і заспакойвала душу роднай моваю і добрымі навінамі.

*Рэдакцыя*

# 25 ЖНІЎНЯ - ДЗЕНЬ АДНАЎЛЕНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

**Дарагія суродзічы!**

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую вас з гэтым вялікім сьвятам – 20-мі ўгодкамі наданьня Дэклярацыі аб суверынітэце сілы канстытуцыйнага закону, што азначала аднаўленьне дзяржаўнай незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны 25 жніўня 1991 году.

Ня гледзячы на цяперашнюю бяду, Беларусь цяпер – незалежная дзяржава. І абавязкам кожнага з нас ёсьць дагледзець, каб мы ніколі больш яе не старцілі.

Роля нашая – кожнага з нас – вялізарная. Новае пагадненьне з Масквою ізноў паставіла на парадак дня “саюзную дзяржаву”. Нам усім добра вядома, што гэта азначае. Калі дыктатару давядзецца выбіраць між нашым суверынітэтам і ягонымі асабістымі інтарэсамі, ён, без сумневу, ахвяруе незалежнасьцю краіны. Мы не можам дапусьціць, каб споўнілася Пуцінская мара пра беларускую “губернію”.

Час змагацца за незалежнасьць не скончыўся!

Жадаю вам сілаў і вытрываласьці.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады*
*Беларускай Народнай Рэспублікі*
*25 жніўня 2011*

***Незалежнасьць - гэта...***
***Незалежнасьць - гэта калі ад нараджэньня да скону пачуваесься сваім чалавекам на сваёй зямлі.***
***Я веру, што калі-небудзь так будзе.***
***Бо іначай проста ня варта жыць.***

***Уладзімір Арлоў***
***Люты, 1990 г.***



20 гадоў таму - 25 жніўня 1991г. была нададзеная сіла канстытуцыйнага закону Дэклярацыі аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, якая была прынятая 27 ліпеня 1990 году. Такім чынам, дэкляраваная незалежнасьць набыла юрыдычную сілу і сталася рэальнасьцю.

Гэтаму папярэднічалі драматычныя падзеі, зьвязаныя са спробаю перавароту ў Маскве і падтр ымкаю путчыстаў (“ГКЧП”) большай часткай кіраўніцтва Вярхоўнага Савета Беларусі.

Раніцай 19 жніўня 1991 году дэпутаты апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня выступілі з асуджэньнем перавароту; у той жа дзень перад Домам ураду быў праведзены мітынг. Сотні людзей зьбіраліся на плошчы таксама 20 і 21 жніўня. Шмат якія працоўныя калектывы прымалі рэзалюцыі з асуджэньнем ГКЧП. Дэпутаты запатрабавалі ад старшыні ВС Мікалая Дземянцея тэрмінова склікаць сэсію парляманту, аднак ён выступіў на баку путчыстаў.

25 жніўня абмяркоўвалася прапанова Апазыцыі БНФ аб наданьні Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы. Для прыняцьця рашэньня патрэбныя былі дзьве траціны галасоў дэпутатаў. Станіслаў Шушкевіч, які вёў паседжаньне, выказаў сумнеў, што рашэньне будзе прынята. Адразу пасьля выступу лідэра БНФ Зянона Пазьняка слова ўзялі многія іншыя дэпутаты, якія заклікалі прыслухацца да аргумэнтаў апазыцыі.

У Авальнай залі прысутнічала 265 дэпутатаў, для станоўчага рашэньня патрабавалася 232 галасы. За наданьне Дэклярацыі аб сувэрэнітэце прагаласавалі 252 дэпутаты. У 20 гадзін 08 хвілін Беларусь вярнула незалежнасьць.

Гэтае рашэньне Вярхоўнага Савета віталі тысячы людзей на плошчы перад Домам ўраду, якая пазьней была названая ў гонар незалежнасьці.



# РАЗВАГІ ПРА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ. 20 ГАДОЎ

Думаю, што шмат хто з нас, фронтаўцаў і дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, успрымаюць дасягненьне незалежнасьці Беларусі як галоўны вынік жыцьця і ўдзячныя лёсу, якім бы цяжкім ён ня быў і ня стаўся далей.

Мы, беларусы, выратаваліся ўжо амаль зь небыцьця (з савецкага небыцьця), калі лепшыя былі зьнішчаны, а астатніх ператварылі ў дэнацыяналізаванае калгасна-савецкае насельніцтва.

Наш шлях да незалежнасьці і свабоды доўжыўся 200 гадоў, быў вельмі пакутны, стратны і крывавы. Мы страцілі тэрыторыі і сталіцу, гісторыю і памяць, набыткі культуры і мільёны людзей, а тыя, што засталіся (у большасьці), не шанавалі гонар.

І ўсё ж час справядлівасьці адчыніўся. Ён стаўся для нас шанцам, быў вельмі кароткі – усяго некалькі дзён, -- але мы скарысталі яго, неверагоднымі высілкамі ў неверагодных умовах вырвалі нашу свабоду.

Неверагодныя ўмовы былі ў тым, што ў адрозьненьні ад іншых краінаў СССР, кіраўніцтва КПСС у Беларусі (КПБ) было цалкам антынезалежніцкім і антыбеларускім, рэакцыйнасьць кіраўніцтва гэтай партыі ў Беларусі была татальнай. Кіраўніцтва КПБ падтрымала путчыстаў (ГКЧП), але не пасьпела цалкам выявіцца ў дзеяньнях, бо камуністычны путч у Маскве праваліўся.

Да дзевяноста адсоткаў дэпутатаў Вярхоўнага Савету складалі камуністы, бальшыню ў ім мела кіруючая партыйная намэнклятура, плюс ветэраны КПСС і НКВД. Дэпутаты Апазыцыі БНФ мелі тут каля дзесяці адсоткаў галасоў.

На сэсіі Незалежнасьці (24-25 жніўня 1991 г.) нашая задача была ў тым, каб скарыстаць перапалох камуністаў пасьля праваленага путча і абапіраючыся на народ на плошчы, зьмяніць кіраўніцтва Вярхоўнага Савета (якое падтрымала ГКЧП), спыніць дзейнасьць кампартыі ў Беларусі і аб'явіць незалежнасьць краіны. Пасьля гэтага – зьмяніць Канстытуцыю БССР і аб'явіць новыя выбары ў парлямант.

Складанасьць у тым, што ўсё гэта трэба было (і адзіна магчыма было) дасягнуць, выкарыстаўшы галасы камуністычнай большасьці (партыю якой мы зьбіраліся забараніць). Тэарытычна -- зыходзячы з логікі і арыфмэтыкі -- такое было немагчыма. Але ўлічваючы рэвалюцыйную сытуацыю і характар барацьбы ў надзвычайных умовах, -- можна. Галоўнае было ажыцьцявіць правільную тактыку, не нарабіць памылак і ня страціць час, якога было вельмі мала (адзін-два дні). Зыходзячы з вопыту, найважнейшым лічу тое, што мы, дэпутаты Фронта, усё гэта разумелі і верылі ў перамогу (рваліся ў бой). Гэта – аснова нашай перамогі. Справа была няпростая і фармальна, без уліку сытуацыі, магла б выглядаць поўнай авантурай. Спачатку нам трэба было моцным напорам "аглушыць", напалохаць намэнклятуру, паралізаваць яе волю, зьняць кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, прадэманстраваць сілу (абапіраючыся на народ на плошчы) і спыніць дзейнасьць КПБ (КПСС) у Беларусі. Потым, пасьля забароны кампартыі, трэба было гэтых жа дэпутатаў-камуністаў зрабіць нашымі саюзьнікамі за незалежнасьць, стварыць атмасфэру адзінства і салідарнасьці з палітычнымі ворагамі ў змаганьні за свабоду Беларусі.

І ўсё гэта нам удалося! Прытым – бліскуча, ніхто не галасаваў "супраць" незалежнасьці, ніхто не "устрымаўся". Тады на практыцы я пераканаўся, што ***палітыка – гэта мастацтва немагчымага***, гэта мастацтва шанцаў, калі рэалізацыю іх, бывае, вырашаюць ні дзень, ні два, а нават секунды.

Філісьцерскі лёзунг палітычнай бюракратыі тыпу Чэмбэрлена ды Гарбачова ("политика – искусство возможного"), найперш, ня ёсьць "искусство", а дэманстрацыя паражэнскай нямоглаcьці. Яны сапсавалі тое, што зьбіраліся зрабіць, і ўвайшлі ў гісторыю як вялікія правальшчыкі, іхныя пляны і праекты перамагла новая палітычная рэальнасьць, якую яны справакавалі і супраць якой плылі.

Беларуская незалежнасьць мае два этапы, дзьве вялікія даты: ***25 Сакавіка 1918 г. і 25 Жніўня 1991-га***. У сакавіку 1918 быў падняты сьцяг незалежнасьці Беларусі, беларуская палітыка і змаганьне былі скіраваныя ў незалежніцкае рэчышча, створаны палітычны ідэал.

25 Жніўня 1991-га – вырашальны этап, рэалізацыя незалежніцкага ідэалу, стварэньне і пачатак будаўніцтва рэальнай незалежнай Беларускай дзяржавы.

Намэнклятурная рэакцыя ў першай палове 90-х, наступны "лукашызм" і ўнутраная акупацыя Беларусі – гэта ўжо пытаньні ўлады і працяг пэрманэнтнай барацьбы (вайны) нашай дзяржавы з Масквой. Сама дзяржаўная незалежнасьць нашай краіны легітымна адбылася, сталася, была законна рэалізавана ў жніўні 1991-га. Слава Беларусі!

*Зянон Пазьняк*

# 27 ліпеня адзначылі ў Кіеве

27 ліпеня, а 12 гадзіне, ля помніка Уладзімеру Караткевічу ў Кіеве адбыўся мітынг прысвечаны 21 гадавіне прыняцця Беларуссяй Дэкларацыі аб дзяржўным суверэнітэце. На заклік беларускіх актывістў Юрася Карэтнікава і Вячаслава Сіўчыка адклікнуліся 9 украінскіх палітычных партый: БЮТ, Наша Украіна, УНП, ВО Свабода, КУН, Уна-Унсо і інш, агулам у акцыі ўдзельнічала больш за 70





чалавек, траціну з якіх складалі беларусы што жывуць у Кіеве. Акцыя пачалася з гімна-малітвы Магутны Божа. Выступоўцы з абодвух бакоў падкрэслівалі важнасць Незалежнасці Беларусі, для суседзяў і Еўропы, таксама была выказана салідарнасць з беларускімі палітвязнямі і народам. Мерапрыемства скончылася выступам беларускага барда.

# Пратэст каля беларускай амбасады ў Вашынгтоне

6 ліпеня сябры Вашынгтонскага гуртка Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня арганізавалі мітынг ля будынка Беларускай амбасады ў Вашынгтоне. Гэта акцыя была актам салідарнасьці з затрыманымі і зьняволенымі жыхарамі Беларусі, якія выйшлі на вуліцы, каб мірна выказаць свой пратэст супраць рэжыму Лукашэнкі. На момант правядзеньня акцыі ў розных гарадах Беларусі было затрымана больш за 1730 ўдзельнікаў маўклівых пратэстаў.

Актывісты, якія сабраліся ля амбасады, трымалі плякаты "Вызваліць усіх палітвязьняў", "Спыніць апошнюю дыктатуру ў Еўропе", "Цэнзура Інтэрнэту = Дыктатура". Яны таксама разда-




валі ўлёткі з інфармацыяй аб палітычных рэпрэсіях ў Беларусі, і, вядома ж, гучна пляскалі ў ладкі, сьвісталі і тупалі.

Акцыю падтрымаў прэзыдэнт Камітэта Украінскага Кангрэсу Амэрыкі Майкл Саўкіў-малодшы.

*Вячаслаў Бортнік*
*Вашынгтон*

# Кіднепінг па-беларуску

Актывісты Беларуска -Эўрапейскага задзіночаньня, абураныя апошнімі падзеямі на Радзіме, зладзілі інфармацыйны пікет насупраць будынка, дзе знаходзіцца беларуская амбасада ў Брусэлі. Пікетоўцы трымалі плакаты з надпісамі «Каму служаць беларускія дыплямата???» , « Stop kidnappings in Belarus" і «Freedom for political prisoners in Belarus".

Пад час пікету быў распаўсюджаны інфармацыйны бюлетэнь, ў якім была інфармацыя пра палітычны стан у Беларусі. Адзін з удзельнікаў пікету Сяржук Трыфанаў выказаўся наступным чынам:

"Я вельмі сумняюся, што гэтая ўстанова ёсьць сапраўды амбасадай Беларусі. У лепшым выпадку, гэта цэнтр выдачы беларускіх візаў. А ў рэальнасьці – амбасада тых гарылаў, што сёньня без прычыны хапаюць і зьбіваюць людзей на вуліцах беларускіх гарадоў. Амбасада арганізаванай злачыннай групоўкі, кіруемай з Масквы, разьмешчаная ў самым сэрцы эўрапейскай дэмакратыі. Рытарычнае пытаньне: а ці існуюць у Брусэлі афіцыйныя прадстаўніцтвы іншых крымінальных груповак, як то напрыклад, Аль – Каіда, сыцылійская мафія? Ці існуюць аднaчасова два паралельныя пасольствы адной і той жа краіны? Бо відавочна, што ўстанова з беларускай шыльдай не зьяўляецца паўнавартаснай амбасадай Беларусі, як незалежнай краіны, а ёсьць аплачваемай беларускімі падаткаплацельшчыкамі прыватнай рэччу грамадзяніна Лукашэнкі – паслухмянага крамлёўскага халопа.

Беларуская эміграцыя не мусіць заставацца абыякавай да зьнішчэньня беларускай дзяржаўнасьці!"

*18.07.2011*




# Маўклівыя пратэсты

У чэрвені-ліпені ў Менску і іншых гарадах Беларусі адбываліся пратэстныя гуртаваньні людзей, ініцыяваныя моладдзю, што кантактуе ў Сеціве.

Самы па сабе такія гуртаваньні (без глыбокага сэнсу, ідэі і канцэпцыі) пэрспэктывы ня мелі. Але яны маглі б паспрыяць пратэстнай салідарнасьці, заснаванай на непрыняцьці асобы, палітыкі і ўлады Лукашэнкі, і потым маглі б разьвіцца ў нешта іншае, больш асэнсаванае.

Нічога гэтага не адбылося ад пачатку (ад закладаньня зьявы). Аднак нечакана для многіх эфэкт аказаўся вельмі вымоўным. Гуртаваньне людзей, пратэстнае пляскальне ў ладкі выклікала нетыповую, характэрна-паранойную рэакцыю рэжыму.

Рэжым прылюдна, так бы мовячы, распрануўся перад агаломшаным грамадзтвам, паказаў груба і адкрыта сваю акупацыйную сутнасьць. Пераапранутыя ў цывільнае банды спэцслужбаў хапалі беларусаў на вуліцы, кідалі ў "хапуны" і за краты ўсіх, без разбору, суправаджаючы свае зьнявагі і дзеяньні рускай лаянкай.

Такое захаваньне і адносігы да насельніцтва – тыповыя якраз для акупацыйных рэжымаў, якія праводзяць экзэкуцыі і палітыку этнацыду.

Ужо пятнаццаць гадоў, як мы, фронтаўцы, аналізуем і распавядаем пра этнацыд і пра існуючы ў Беларусі рэжым унутранай акупацыі краіны. Для некаторых, што дэмантсратыўна дыстансаваліся ад палітыкі, і казалі, што палітыка іх не цікавіць, гэтае азначэньне (аб унутранай акупацыі) было нейкай абстракцыяй. І вось тут яны пазнаёміліся раптам з праявамі зьявы, канкрэтна і брутальна. Палітыка сама зацікавілася імі. Сумна казаць, але рэжымны бандытызм аказаўся даволі эфэктоўным штуршком для росту сьведамасьці людзей (тое, чаму не вучыла жыцьцё, -- навучыла біцьцё).

Зь беларусамі так абыходзіцца нельга. Але акупацыйны рэжым ня можа быць іншым. Маўклівыя сацыяльныя пратэсты і рэпрэсіўныя дзеяньні рэжыму дапамаглі шмат каму зь беларусаў тое ўбачыць і зразумець.

*Зянон Пазьняк*
*4 жніўня 2011 г.*

# БАПЦ перадала дапамогу дзецям-інвалідам у Беларусі

Дэлегацыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы 1 жніўня перадала гуманітарную дапамогу Журавіцкаму дому-інтэрнату для дзяцей з псыхафізычнымі адхіленьнямі ў Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласьці, дзе стала знаходзіцца каля 300 дзяцей-інвалідаў.

У актавай зале інтэрнату Ўладыка Сьвятаслаў, айцец Леанід Акаловіч і двое вернікаў рэлігійнае Суполкі Сьв. Эўфрасіньні Полацкае ў Менску разам з прысутнымі адслужылі Малебен за выздараўленьне хворых, пасьля якога была перададзена невялічкая дапамога, грошы на якую сабрала царква Сьв. Кірылы Тураўскага г. Таронта ў Канадзе. Пасьля чаго дзеці паказалі канцэрт.





## Палата прадстаўнікоў ЗША ўхваліла «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі»

Новы законапраект зьяўляецца працягам аналягічнага закону, прынятага ў 2004 годзе. У красавіку сёлета яго разгледзеў Сэнат ЗША. Цяпер дакумент мае назву «Акт аб дэмакраты і правах чалавека ў Беларусі».

«Гэты Акт закліканы падтрымаць тых, хто змагаецца за годнасьць і асноўныя правы чалавека пад жорсткім ціскам з боку аўтарытарнага рэжыму, - сказаў ініцыятар новага закону, кангрэсмэн Крыстафэр Сьміт.

Акт забараняе наведваць ЗША вышэйшым службовым асобам Беларусі, іх блізкім сваякам, а таксама іншым асобам, якія ўдзельнічаюць у парушэньнях правоў чалавека і барацьбе з дэмакратыяй, у тым ліку і тым, хто ўдзельнічаў у разгоне акцыі 19 сьнежня.

Законапраект таксама забараняе фінансаваньне з боку ЗША праектаў беларускай дзяржавы, за выключэньнем паставак гуманітарных і сельскагаспадарчых тавараў і тавараў мэдычнага прызначэньня. Прадугледжваецца блякаваньне актываў, якія належаць прадстаўнікам найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі або іх сямейнікам, а таксама асобам, якія ўдзельнічаюць у барацьбе з дэмакратыяй, ды іхным сямейнікам. Дакумэнт патрабуе ад Дзярждэпартамэнту падаваць у Кангрэс зьвесткі аб продажы і пастаўках зброі беларускім рэжымам, зьвесткі аб асабістым багацьці Лукашэнкі, а таксама аб супрацоўніцтве беларускага ўраду зь любым замежным урадам ці арганізацыяй, зьвязанымі з цэнзурай або абмежаваньнем інтэрнэту. У тэксце дакумэнта ёсьць заклік да Міжнароднай фэдэрацыі хакею не праводзіць у 2014 годзе чэмпіянату сьвету ў Менску, калі ня будуць вызваленыя палітвязьні.

Найбольш істотныя папраўкі да тэксту 2004 году ўключаюць:

а) рэкамэндацыю прэзыдэнту ЗША падтрымаць вяшчаньне Радыё Свабода, Голасу Амэрыкі, Эўрапейскага радыё для Беларусі і Белсату;

б) рэкамэндацыю прэзыдэнту выдзяляць адпаведныя сумы грошай на падтрымку дэмакратыі ў Беларусі ў 2012-2014 гг.

*07.07.2011*

## ЗША ўвялі новыя эканамічныя санкцыі супраць беларускіх прадпрыемстваў

Эканамічныя санкцыі ўведзены супраць 4 беларускіх прадпрыемстваў - «Белшына», «Гродна-Азот», «Гродна-хімвалакно» і «Нафтан».

У дакумэнце дэпартамэнту кантролю за замежнымі актывамі казначэйства ЗША адзначаецца, што гэтыя прадпрыемствы знаходзяцца ва ўласнасьці ці пад кантролем канцэрну «Белнафтахім». Санкцыі супраць канцэрну былі ўведзеныя яшчэ ў лістападзе 2007 году, паколькі канцэрн знаходзіцца ва ўласнасьці альбо пад кантролем кіраўніка Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. «Нафтан» зьяўляецца даччынай кампаніяй канцэрну «Белнафтахім», якая займаецца пастаўкамі нафтапрадуктаў у Беларусь у дадатак да вытворчасьці і перапрацоўцы дызэльнага паліва. Даччыная кампанія канцэрну «Белнафтахім» «Гродна-Азот» зьяўляецца буйным вытворцам угнаеньняў і тавараў народнага спажываньня. «Гродна – Хімвалакно» прадукуе нэйлён і поліэфірныя ніткі і валокны, а «Белшына» зьяўляецца адным з найбуйнейшых вытворцаў аўтамабільных шын у Эўропе.

Грамадзянам ЗША забараняюцца любыя камэрцыйныя зьдзелкі з гэтымі прадпрыемствамі, а любыя актывы гэтых прадпрымстваў у ЗША, калі яны існуюць, замарожваюцца.

Адпаведнае распараджэньне мае на мэце санкцыі адносна юрыдычных і фізычных асобаў, адказных за падрыў дзейнасьці дэмакратычных працэсаў і інстытутаў у Беларусі, якія нясуць адказнасьць за распрацоўку дзеяньняў альбо ўдзел у дзеяньнях, якія парушаюць правы чалавека, якія зьяўляюцца высокімі дзяржаўнымі службоўцамі альбо датычныя да карупцыі.

У траўні сёлета ЗША ўвялі санкцыі супраць беларускіх прадпрыемстваў «Белтэхэкспарт», БелОМА і «Беларусьнафта» за супрацоўніцтва зь Іранам у галіне стварэньне ядзернай і балістычнай зброі.

*11.08.2011*

## Прэзыдэнт ЗША працягнуў тэрмін дзеяньня закона, які абмяжоўвае гандаль з з шэрагам краінаў

Барак Абама працягнуў тэрмін дзеяньня фэдэральнага закона International Emergency Economic Powers Act (IEEPA), які надзяляе прэзыдэнтаў ЗША паўнамоцтвамі рэгуляваць гандлёвыя адносіны з краінамі, якія ствараюць пагрозу для ЗША.

У сьпіс краінаў, гандлёвыя адносіны з якімі абмяжоўваюцца гэтым законам, сярод іншых праблемных краінаў з 2006 году ўключана і Беларусь за разбурэньне дэмакратычных інстытутаў.

*13.08.2011*

## Лукашэнка пачаў ядзерны шантаж ЗША



У адказ на санкцыі ЗША Беларусь замарожвае сумесныя праекты па абмене высокаўзбагачанага ядзернага паліва.

«Увядзенне новых амерыканскіх эканамічных санкцый ідзе насуперак духу ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва. У гэтых умовах беларускім бокам прынятае рашэнне аб замарожванні сумесных з ЗША праектаў па абмене высокаўзбагачанага ядзернага паліва ў межах ініцыятывы па зніжэнні глабальнай пагрозы міністэрства энергетыкі ЗША, а таксама па стварэнні праграмы МБА пры Беларускім дзяржаўным універсітэце», - заявіў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» начальнік упраўлення інфармацыі - прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных.

«Беларусь па-ранейшаму будзе забяспечваць фізічную бяспеку ядзернага паліва, у поўнай адпаведнасці з міжнароднымі абавязацельствамі ў галіне нераспаўсюджвання. Мы таксама не выключаем прыняцця іншых мераў у адказ», - дадаў прэс-сакратар.

Беларусь зьяўляецца апошняй краінай на тэрыторыі былога СССР, апроч Расеі, зь вялікімі запасамі высокаўзбагачанага ўрану, якія маглі б быць выкарыстаныя для вытворчасьці ядзерных бомбаў у выпадку, калі б былі ўзбагачаныя да дастаткова чыстай ступені.

## Дэйвід Крэймэр: «Мы не павінны паддавацца на пагрозы Беларусі»

«Беларусь спрабуе выкарыстаць свае мінімальныя рычагі на Захадзе, каб з яе зьнялі санкцыі», - так пракамэнтаваў выканаўчы дырэктар “Freedom House” Дэйвід Крэймэр заяву Беларусі пра спыненьне ядзернага супрацоўніцтва.

«Мы не павінны паддацца на гэта, - сказаў ён. - Злучаным Штатам, Расеі і краінам ЭЗ давядзецца павялічыць сваё назіраньне і кантроль за Беларусьсю, каб быць гарантаванымі супраць любога распаўсюджаньня ядзернага паліва, але? я ня думаю, што ёсьць сур'ёзная пагроза».

*19.08.2011*

# Ангельскія газэты пра Беларусь

У паважнай ангельскай газэце”The Daily Telegraf “ за 12 чэрвеня 2011 быў доўгі артыкул Эндру Осборна (Andrew Osborn) ) пра Андэя Саньнікава, Ірыну Халіп і іхнага сынка Данілу. Як вядома, Андрэй Саннікаў - былы кандыдат у прэзыдэнты знаходзіцца цяпер за кратамі. У артыкуле крытыкаваўся прэзыдэнт Лукашэнка, якога называюць апошнім дыктатарам у Эўропе. Нагадваецца, як ён некалі выхвальваў Гітлера, пра тое, што ён зьмяніў Канстытуцыю, каб працягнуць тэрмін сваёй улады. Гаворыцца таксама пра падзеі 19 сьнежня і брутальную расправу ўладаў над мірнымі дэманстрантамі. Аналізуецца эканамічная сытуацыя, якая прывяла краіну да крызысу.

У другой уплывовай газэце “The Independent” за 20 чэрвеня было надрукавана аж тры артыкулы з фотаздымкамі. У першым артыкуле пад назваю “Брытанія заклікае Эўразьвяз налажыць новыя санкцыі на Беларусь” гаворыцца пра парушэньне правоў чалавека ў Беларусі, пра тое , што Лукашэнка зарабляе грошы праз гандаль зброяю, што беларускі рубель траціць вартасьць і ўрад просіць новыя пазыкі. Падкрэсьліваецца, што людзі ў такой сытуацыі мусяць выходзіць на “ціхія” акцыі пратэсту, але і гэта не спыняе дыктатара і масавыя арышты працягваюцца, пераследуюцца сродкі масавай інфармацыі.

У наступным артыкуле Джэром Тайлар (Jerome Taylor) піша пра новыя санкцыі супроць беларускіх чыноўнікаў, сьпіс якіх на забарону ўезду ў Эўразьвяз быў істотна дапоўнены. Згадваюцца абмежаваньні, якія накладзеныя Эўразьвязам на беларускія кампаніі, што цесна павязаныя з дыктатарам.

У гэтым жа выпуску газэты быў надрукаваны вядомы зварот аднаго з кіраўнікоў Беларускага вольнага тэатру Мікаля Халезіна да Аляксандра Лукашэнкі. Ліст вельмі цікавы і глыбока прадуманы. Безумоўна, ён дасьць больш рэальнае ўяўленьне пра сапраўдную сытуацыю ў Беларусі для чытачоў газэты “The Independent”.

*Міхась Швэдзюк*
*Вялікабрытанія*

## Міністэрства юстыцыі Літвы перадало беларускім уладам інфармацыю пра беларусаў

Намеснік міністра юстыцыі Літвы Томас Вайткявічус (Tomas Vaitkevičius) паведаміў на адмысловай прэсавай канфэрэнцыі з нагоды арышту беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, што міністэрства перадало беларускім ўладам інфармацыю пра банкаўскія рахункі ў Літве 400 грамадзян Беларусі ў тым ліку і на кіраўніка праваабарончага цэнтру “Вясна” Алеся Бяляцкага.



Алесь Бяляцкі

Цэнтр “Вясна” атрымліваў міжнародную дапамогу на праваабарончую дзейнасьць праз літоўскія банкі “DnB NORD" і "SEB”, аднак беларускія ўлады прыпісваюць гэтыя грошы асабіста А. Бяляцкаму і абвінавачваюць яго за неўплату падаткаў у асабліва буйных памерах.

Вайткявічус сказаў, што паміж Беларусьсю і Літвой існуе дамова, паводле якой такая інфармацыя павінна прадастаўляецца паводле запыту кожнай з краінаў.

Паводле віцэ-міністра, сёлета Літва перадала для Беларусі інфармацыю пра 400 чалавек, а Беларусь для Літвы перадала падобнай інфармацыі пра 500 чалавек.

Банкі мелі права адмовіцца выдаць гэтую інфармацыю, заявіў віцэ-міністар. Паводле яго, міністэрства накіравала ў банкі рэкамэндацыю перадаць гэтую інфармацыю, але гэта не было загадам.

Вайткявічус заявіў таксама, што практыка выдачы такой інфармацыі беларускаму боку цяпер прыпыненая. На пытаньне, ці ведаў пра гэта міністар юстыцыі і кіраўніцтва дзяржавы, Вайткявічус адказаў, што паводле звычайнай працэдуры ня трэба была інфармаваць пра гэта кіраўніцтва краіны і нават міністра.

Мінюст даслаў запыт, у якім раіў банкам падзяліцца інфармацыяй з праваахоўчымі органамі Беларусі, але гэта не было загадам. Банкі мелі права адмовіцца выдаць гэтую інфармацыю.

Віцэ-міністар юстыцыі заяўляе, што з боку мінюсту не было зроблена ніякай памылкі, інфармацыя аб рахунку Алеся Бяляцкага выдавалася як аб рахунку прыватнага чалавека, у Мінюсьце проста не падумалі пра тое, што ён займаецца і праваабарончай дзейнасьцю, хаця міністар не адмаўляе, што гэта было вядома.

У дамове паміж Літвой і Беларусьсю дзейнічае правіла, паводле якога Літва мае права не прадстаўляць інфармацыю Беларусі, калі гэта супярэчыць нацыянальным інтарэсам Літвы. У дадзеным выпадку, такой індыкацыі, паводле віцэ-міністра, не было.

4 жніўня супрацоўнікі Дэпартамэнту фінансавых расьсьледаваньняў Камітэту дзяржкантролю затрымалі кіраўніка праваабарончага цэнтру “Вясна” Алеся Бяляцкага. На кватэры і лецішчы праваабаронцы, а таксама ў офісе арганізацыі прайшліператрусы.

*05.08.2011*

## Польшча таксама здала Бяляцкага

Польская пракуратура перадала беларускаму боку інфармацыю датычную Алеся Бяляцкага, паведаміла польскае прэс-агенцтва ПАП.

Польскаму агенцтву друку ПАП у Генпракуратуры Польшчы падцьвердзілі, што ведамства "задаволіла запыт аб прававой дапамогі, які тычыцца Алеся Бяляцкага". "Аднак у запыце не ўтрымлівалася ніякай інфармацыі, якая магла б ўказваць на тое, што ён тычыцца апазыцыйнага дзеяча ці апазыцыйнай дзейнасці", - паведаміў у адказе на запыт ПАП прадстаўнік Генпракуратуры Мацей Куяўскі.

*11.08.2011*

## У Польшчы адстаўкі за справу Бяляцкага

Генэральны пракурор Польшчы Анджэй Сэрэмэт заявіў на адмысловай прэсавай канфэрэнцыі, што вінаватыя ў перадачы дадзеных з банкаўскіх рахункаў Алеся Бяляцкага шэраг супрацоўнікаў пракуратуры, якія не выконвалі належным чынам свае службовыя абавязкі, звольненыя з пасадаў.

Сэрэмэт: “Я спадзяюся, што гэтыя рашэньні прадухіляць выкананьне такіх запытаў і паспрыяюць ачыстцы сытуацыі, зь якой мы маем цяпер дачыненьне.”

Калі стала вядома, што Генпракуратура перадала афіцыйнаму Менску інфармацыю ў справе Бяляцкага, практычна ўсе найбольш важныя палітыкі краіны моцна скрытыкавалі гэты крок.

*16.08.2011*

## Прэм’ер-міністар Літвы стварыў рабочую групу па справе Бяляцкага

Прэм’ер-міністар Літвы Андрус Кубілюс стварыў рабочую групу для ацэнкі абставінаў выдачы афіцыйнаму Менску банкаўскіх дадзеных кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага. Ён даручыў прадставіць высновы цягам тыдня.

*19.08.2011*

## Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла зьвярнулася да польскіх уладаў з заклікам вызваліць актывіста беларускай дыяспары Зьміцера Піменава, які быў затрыманы польскімі памежнікамі

Сурвіла: “Выпадак са Зьміцерам Піменавым, які між іншым ёсьць сябрам Рады БНР – яшчэ адзін прыклад таго, як рэжым Лукашэнкі выкарыстоўвае прававыя мэханізмы дэмакратычных краінаў для барацьбы са сваімі палітычнымі апанэнтамі. Выглядае, што гэтыя мэханізмы вымагаюць пэўнай карэкціроўкі з улікам характару падобных рэжымаў”.




Зьміцер Піменаў

Піменаў, легендарны Мірон, які некалькі гадоў таму атрымаў палітычны прытулак у Бэльгіі, ехаў ва Украіну па сямейных абставінах, быў затрыманы польскімі памежнікамі на польска-ўкраінскай. Зьміцер мае «жэнэўскі» пашпарт палітуцекача. Перад ад'ездам ва Украіну, атрымаўшы ўкраінскую візу, сям'я раілася з бэльгійскімі спэцслужбамі, якія запэўнілі, што ўсе дакумэнты Піменава ў парадку, і з імі яго ня могуць затрымаць на мяжы Эўразьвязу.

*19.08.2011*

## Меркаваньне з-за кратаў

Ірына Халіп сустрэлася з мужам экс-кандыдатам на прэзыдэнта, палітвязьнем Андрэем Саньнікавым ў наваполацкай калёніі.

У сваім інтэрвю для Радыё Свабода 18.08.2011 Ірына распавяла пра сустрэчу і паведаміла пра тое, як Андрэй Саньнікаў ставіцца да апошніх падзеяў ў Беларусі і, вядома, у першую чаргу да справы выдачы інфармацыі беларускім уладам пра рахункі удзельнікаў супрацоўніцтва з боку літоўскіх і польскіх дзяржаўных структураў:

“Андрэй кажа, што яго вельмі ўразіла тая лёгкасьць, зь якой некалькі краінаў Эўразьвязу пайшлі на супрацоўніцтва зь беларускімі карнымі органамі. ..

Ён сказаў, што адтуль, дзе ён знаходзіцца, па той інфармацыі, што даходзіць да калёніі, ён бачыць, што ЗША займаюць вельмі пасьлядоўную і жорсткую пазыцыю і даюць Эўропе прыклад, як трэба сябе паводзіць. Але здаецца, зараз эўрапейцы ўжо вырашылі, што няхай усіх заб'юць, замардуюць у турмах, будзем выратоўваць Лукашэнку, каб ён не пайшоў у абдымкі Расеі”.



# Беларусь пасьля Лукашэнкі

***Становішча ў Беларусі сёньня не дае пакуль што вялікіх надзеяў на хуткія перамены. Аднак, відавочныя прыкметы крызіу дыктатарскага рэжыму прымушаюць задумацца над тым, якой мае быць Беларусь пасьля Лукашэнкі, што чакае краіну пасьля краху дыктатуры. Пра гэта спрачаюцца палітыкі, аналітыкі як з беларускага боку, так і прадстаўнікі зацікаўленай міжнароднай супольнасьці. Прапануем варыянт, які бачыцца міжнароднаму рэдактару часапіса The Economist Эдварду Лукасу, чыё імя стала шырока вядомым пасьля ягонай публікацыі некалькі месяцаў таму пра памылкі заходняй палітыкі адносна Беларусі. Ягоная новая публікацыя ў пачатку жніўня таксама выклікала вялікую зацікаўленасьць.***

## Беларусь пасьля пераменаў



**Эдвард Лукас**

Былы прэзыдэнт Аляксандр Лукашэнка і яго памагатыя знайшлі прытулак у Абхазіі. Андрэй Саньнікаў, які яшчэ тыдзень таму знаходзіўся ў турме, праводзіць прэсавую канфэрэнцыю. Над намётавым мястэчкам пратэстоўцаў у цэнтры Менску ранішні туман. Івонка Сурвіла, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі -- ураду ў выгнаньні з 1918 году - сьпяшаецца наведаць сваю радзіму, якую даўно ня бачыла. Толькі некалькі дзён назад яе б неадкладна па прыезьдзе арыштавалі. Цяпер яна, як плянуецца, дасьць тэлеінтэрвію ў прайм-тайм.

Для ўсіх, хто дастаткова стары, каб памятаць падзеі 1989-1991 гадоў, усё гэта, здаецца, выклікае ўспаміны. Мы памятаем дзіўнае падзеньне камуністычнай улады ў тагачаснай Чэхаславаччыне, трыюмфальнае вяртаньне ў краіны Балтыі эмігранцкіх дзеячаў, якім некалі пагражаў б сьмяротны прысуд; эйфарыю маладых тэлегенічных пратэстоўцаў; рэзкі салодкі пах даўно пахаванай і сьвежавыкапанай праўды.

Калі нам пашанцуе, то праз дзесяць гадоў Беларусь можа выглядаць як Сэрбія. Калі не пашанцуе, яна будзе выглядаць як Украіна ці нават як Расея.

Але мы таксама памятаем і аб спадзяваньнях, і гэта пакутліва. Тое, што пачалося раніцай пасьля асноўных падзей, было значна больш брудным, значна больш павольным і значна менш поўным, чым мы спадзяваліся. У большасьці краін, якія некалі лічыліся «паняволенымі народамі», палітычныя свабоды і вяршэнства закону застаюцца толькі імкненьнямі, ці яшчэ горш, разглядаюцца як няўдалыя экспэрымэнты. Нават у дзясятцы дзяржаў, якія сталі чальцамі Эўразьвязу або блізкіх да гэтага, многія адчуваюць, што крах камунізму прынёс дывідэнды паслугачам старога рэжыму і даў пачатак пазбаўленьня масаў уласнасьці.

Менавіта ў гэтым духу мы павінны разглядаць пэрспэктыву краху рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі. Тое, што надыдзе потым, ня будзе казачным пераходам. Працэс будзе каламутным, несправядлівым, ён будзе расчароўваць і ўражваць. Калі нам пашанцуе, то праз дзесяць гадоў Беларусь можа выглядаць як Сэрбія. Калі не пашанцуе, яна будзе выглядаць як Украіна ці нават як Расея. Што б ні адбылося, людзі ў Брусэлі і ў Вашынгтоне будуць па-дурному спрачацца з нагоды таго, «хто страціў Беларусь», як быццам бы гэта зьнешнія, а ня ўнутраныя сілы вызначалі тое, што адбылося. Прагрэс будзе вымярацца ўмоўнымі крытэрамі, якія ўключаюць польскую эканамічную сілу, эстонскія стандарты дзяржаўнага кіраваньня і чэскую дыпляматыю.

У кожнай палітычнай магчымасьці ёсьць пасткі. Шчодрая стабілізацыйная падтрымка з боку зьнешніх крэдытораў нясе ў сабе рызыку таго, што бездакзны ўрад прызвычаіцца да дармавых грошай. Жорсткія зьнешнія абмежаваньні азначаюць, што эканамічныя цяжкасьці будуць перашкаджаць рэформам і дэмаралізоўваць рэфарматараў. Хуткая прыватызацыя разбурае ўладу дзяржаўных бюракратаў. Але яна ж перадае права валоданьня ўласнасьцю авантурыстам і розным сябрам і знаёмым людзей рэжыму. Наўпроставыя замежныя інвэстыцыі прыносяць грошы і тэхналёгіі. Але яны ж ствараюць адчуваньне крыўды: людзі пачынаюць адчуваць, што дыямэнты ў кароне іх краіны былі прададзеныя занадта хутка і занадта танна. Эканамічная лібэралізацыя расчышчае шлях для будучага росквіту. Але яна ж прыносіць вялікі псыхалягічны шок выбаршчыкам, якія пасьля яго могуць зрабіць выбар на карысьць стабільнасьці, а не далейшага дыскамфорту. Жорсткі падыход да злачыннасьці і карупцыі жыцьцёва неабходны. Але ў выніку можа атрымацца ўплывовы дзяржаўны орган, які сам па сабе будзе прадстаўляць свайго роду мафію. Калі зьнешні сьвет будзе даваць шмат парадаў, давер да іх будзе сапсаваны расчаравальнымі вынікамі. Калі ж ён сьціпла адыдзе ўбок, ён будзе выглядаць грэблівым.

Акрамя кароткага прамежку ў пэрыяд паміж 1989 і 1994 гадамі, беларусаў кармілі атрутнай дыетай з прапаганды. Многія адчуваюць сябе ізаляванымі ад сьвету. Схільнасьць імкнуцца да бясьпекі, а не да пераменаў, будзе вельмі моцная.

Найбольш небясьпечным з усяго будзе суперніцтва з Расеяй. Гэта ўжо прывяло да кашмарных вынікаў ва Ўкраіне, дзе Захад сыстэматычна ігнараваў недахопы сваіх «саюзнікаў» (у апошні час - Віктара Ючшчанкі і Юліі Цімашэнкі) з мэтай паспрабаваць стрымаць расійскае ўмяшаньне. Гэта прывяло да дыскрэдытацыі заходніх каштоўнасьцяў, але пры гэтым без дасягненьня галоўнай мэты.

Калі найбольш ясны ўрок з мінулага -- гэта неабходнасьць рэальна глядзець на рэчы, то яшчэ адным падобным урокам можа стаць патрэба ў дальнабачнасьці. Жыцьцёва неабходнае хуткае шырокае адкрыцьцё рынкаў і межаў. (На жаль, менавіта гэтага выбаршчыкі ў астатняй Эўропе ня хочуць). Ясная доўгатэрміновая пэрспэктыва сяброўства ў ЭЗ прываблівае людзей і стварае стратэгічныя рамкі для іншых важных рашэньняў. Прапанова шчодрага зьнешняга фінансаваньня ў абмен на лібэральную эканамічную палітыку таксама зьяўляецца добрым доўгатэрміновым інструмэнтам, добрай доўгатэрміновай інвэстыцыяй

Але рэальныя перамены павінны зыходзіць з розумаў і сэрцаў. Акрамя кароткага прамежку ў пэрыяд паміж 1989 і 1994 гадамі, беларусаў кармілі атрутнай дыетай з прапаганды, запраўленай пыхлівымі, параноідальнымі і ілюзорнымі інгрэдыентамі. Многія адчуваюць сябе ізаляванымі ад сьвету. Схільнасьць імкнуцца да бясьпекі, а не да пераменаў, будзе вельмі моцная.

Словам, мэнтальнае, культурнае і духоўнае лячэньне, якое павінна прыйсьці за заканчэньнем эпохі аўтарытарнага кіраваньня, - гэта хваравіты і пакручасты працэс. Яго нельга прысьпешыць. Зьнешні сьвет павінен набрацца цярпеньня. Як і Беларусь.

## Амэрыканцы працягваюць падтрымку Беларускага вольнага тэатра

Два дні запар, 29 і 30 ліпеня 2011, на сцэне Дэнверскага музэя мастацтва адбываліся пастаноўкі п'есаў Беларускага вольнага тэатру в выкананні групы амэрыканскіх артыстаў пад кіраўніцтвам рэжысера Джэсі Ларнэра.

Выступленні былі арганізаваны ў межах кампаніі глабальнай падтрымкі Беларускага вольнага тэатра, а таксама на акт салідарнасці з народам Беларусі ды ў падтрымку вольнага грамадства. Публіцы былі прадстаўлены “Пакаленьне Джынс” ды “Спасьцігаючы Каханне”, а таксама фрагменты іншых спектакляў тэатра.

Пастаноўкі прыцягнулі да сябе актыўны інтарэс амерыканскай публікі.

Акторы тэатра Сандрын Хадл, Лерой Леанард, Магдалена Лесняк, Эшлі Тэпл ды Нікалай Цанкоў заявілі пра сваю рашучую падтрымку народа Беларусі ў яго імкненьні да свабоды ды непрыйманьні дыктатуры.

*Кастусь Хадыка*

# Прытча пра народ, які паўстаў

У лахманах, збяднелыя. Крочаць. Беларусы. Нацыя. Гэтак бачыць мая бабуля ў сьне, які нібы дзённае трызьненне, нібы зусім не сон, а так, гісторыя, расказаная часам. Бачыць – паўсталі яны, ясе дзеці памерлыя. Бабуля мая – маці ўсёй Зямлі. Толькі яна пра гэта не ведае. Вядзе народ паўсталы – старажыл, у якога ў сэрцы гарыць Сьвяты Агонь. Ідзе-вядзе, ён – Праведнік. Паўз палі, пусткі, лясы, тудой вядзе, дзе нага звера не хадзіла, дзе ўладар тых зямель не трымаў рукою сваёю рыдлёўку, не трымаў зброю сваю, не будаваў дамоў сабе, не таптаў сцежак, калісь пратоптаных дзікімі племёнамі, якія хадзілі тут да яго. Вядзе Праведнік пакаленьне сваё. Старое яно. Зьедзенае ўспамінамі тых, хто яшчэ пра яго помніць. Пакаленне забытае, выкрэсьленае рукою варожаю, якая трымала рыдлёўку, якая трымала зброю сваю, будавала сабе дамы, таптала сцежкі святыя, па якіх яно вяртаецца ў лахманах, басанож. Ногі - у драпінах. Крыві - поўны коўш. Дзеўчыны і жанчыны збіраюць тую кроў, пасля паліваюць травы-палеткі, каб пачалі буяць тыя кветкі, што дзесяцігодзі-стагоддзі таму, рукою сваёю кінуў Сейбіт, калі засяваў пустое поле. І па сённяшні дзень яно не родзіць, чакае толькі, калі ўжо дадуць яму папіць. Крыві, а не вады. Крывёй дзядоў-прадзедаў, крывёй Праведніка напояць тое поле. Мёртвыя ўсталі. Ідуць. Вядуць народ. Нацыю. З мінулага - у будучыню. Бо час цяперашні – крывавы час – не варта зараз помніць. Хіба бывае так? Нехта спытае. То сон, дзённае трызьненне маёй бабулі, якая дрэнна бачыць, дрэнна чуе. З паламанай рукою. З паламанай нагою. Ляжыць. Ісус калісь быў прыкуты цвікамі да крыжа. Крыж з дрэва быў. І канапа, на якой бабуля спіць, драўляная таксама. Старая бачыць. Вокам правым. Амаль сляпым. Што хтось устаў. З зямлі. Што хтось ідзе. З шафы – у пакой. Што хтось вядзе. З пакою – у дом. Што выйшаў нехта і пайшоў за ім, Праведнікам. Вось яны ўжо за акном. Крочаць дружнай Грамадой. Нашто ж выйшлі яны? Крыўдай дзяліцца. І нясуць сваю крыўду з мінулых стагоддзяў у наш час, які звацца будзе цяпер нават не гісторыяй – палітыкай толькі. І нясуць памерлыя жывым кроў сваю, каб палеткі ёю паліць, каб вырасьціць супраціў. Бо крыўда тая і крыўда гэтая перараслі ў бунтарскі намер. Мёртвыя крочаць моўчкі, але душы моцна гамоняць. Гутараць штосьць. Бабуля чуе, і верыць не хоча, што тое можа быць, каб нават днём, не сярод ночы, душы мелі сілу гаварыць. Глухім вухам чуе буб-неньне, незадавальненне, чуе намер ісьці ў дарогу дальнюю, невядомую. Чуе вухам глухім намер мёртвых - падняць жывых. Што стаяць. У чэргах крамаў. Што сядзяць. У раскошных крэслах кіраўніка. Па два. Нават па пяць. Ого! Колькі намаганьняў будзе каштаваць, каб іх зняць адтуль. Ого! Колькі цяжка будзе ператварыць плян бяздзеяньня ў плян дзеяньня. Напэўна, жывым самастойна цяжка справіцца з гэтым. Таму мёртвыя збіраюць Кола Супрацьдзеяньня. Збіраюць Кола Змагароў.

- Ці магчыма такое, бабуля?
- Калі бачу і чую, значыць – бачу і чую. То яно. Тое самае. Ісьцінай завецца. Якая крочыць ззаду – наперад. З мінулага – у тое, што будзе. А інакш, было б толькі трызненьнем, прывідным жахам, што поначы сьцены драпае брудным чорным колерам. Я, глухая, аддаю слых мой. Я, сьляпая, аддаю зрок свой. Я, нямая, аддаю мову сваю. Табе. Унука мая. І Крыж мой забяры. Ісус таксама быў на Крыжы. Драўляным. Як ложкі, на якіх мы спім. А што рабіць табе з гэтым усім – твой самастойны выбар. Ісус сам сабе дарогу выбраў. І ты выбяры: выкінуць, ці забраць, несьці з сабою.

У любым выпадку, у людзкой памяці застанецца тое, што не было выканана, але было наканавана. І зноўку мёртвыя паўстануць, каб з зямлі тое выштурхнуць, што было ў зямлю схавана, закапана тымі рукамі, што трымалі рыдлёўку. Тымі рукамі, што капалі зямлю. Тымі рукамі, што кідалі ў свежую труну будучыню нашага мінулага. Будучыню нашчадкаў тых памерлых, што паўсталі. Унука мая! Ганаруся табою! Узяла слых мой. Узяла зрок мой. Узяла мову маю. Забрала Крыж мой. Уздыхнула і раптам сьпешна пайшла. За Грамадой. Мёртвай пакуль. Стане яна жывою. З Богам ідзі! Неба з табою. Амінь.

*Марына Яўсейчык*
*Нью-Ёрк, Бруклін*
*Жнівень 2011*

*(Марына Яўсейчык – студэнтка з Беларусі, якая ўжо другі год запар пад час летніх вакацыяў прыязджае ў Нью-Ёрк па адмысловай студэнцкай праграме, што спалучае працу ў Амэрыцы і знаёмства з краінаю. У Беларусі яна супрацоўнічае са Згуртаваньнем беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" і ў Нью-Ёрку адразу далучылася да дзейнасьці Бруклінскага аддзелу БАЗА.)*

# Маналёгі

## Кавы піцьцё. Сьлёзаў ліцьцё.

Дзякуй Радзіме-Чужыне за тое, што дала прытулак той, пра які мы нават не прасілі. Я і я. Нас двое. Мы абое. Разам. Самі з сабою. Сваёй рукой. Тваёй рукой. Сядзім, развагі малюем. Успамін старадаўні ўсплыў. Немаўля гадуе прадзед, немаўля гадуе прабабка. Няхай так будзе ўсё гладка, як ідзе зараз. Святою рукою хрысьцілі. Святою рукою на Зямлю пусьцілі. Далі дазвол ісьці. Далі прапанову быць тым, кім дадзена лёсам быць табе і мне - нам абоім быць. І больш нічога. Ніякіх зьмен-перамен. Не трэба поту, сілаў, высілак, намаганьняў, стараньняў – усё будзе дадзена табе і мне Небам. Тым Небам, якое цябе і мяне нарадзіла, якое хрысьціла, на Зямлю пусьціла і дало запавет: любіць мову сваю. Шанаваць яе.

*Так размаўлялі між сабою Душа і Цела.*

Сонечны ліхтарык засьціць неба.
Аб табе ён думае, Свабода.
Кіруе светам Сонца,
што да вышыні ліхтарнай толькі
ўзьлезла
без цябе, Свабода...
Вышэй не можа ў неба, бо трымаюць моцна
кіпцюры ўлады.

Рукі твае, Свабода, адгукнуцца
рукам маім.
У далоні пляскаць забараняюць.
Самі - рагочуць
з тых, хто яшчэ жывы і выжыць
хоча.
Усміхаюся крыва і жудасна,
каб нагадаць Еўропу, што намаляваў Сероў.

*Марына Яўсейчык*
*Нью-Йорк. Бруклін.*
*4 ліпеня 2011г.*

## ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА !

**У нядзелю *11 верасьня 2011г.* у грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага (401 ATLANTIC AVE ) Бруклінскі аддзел БАЗА сумесна з Парафіяльнаю Радаю Сабору ладзіць урачыстае сьвяткаваньне 20-х угодкаў аднаўленьня незалежнасьці Беларусі, якое адбылося 25 жніўня 1991 году. Гэтая падзея сталася вынікам змаганьня шматлікіх пакаленьняў беларусаў на працягу больш за дзьвесьце гадоў.**

**Раніцаю ў Саборы адбудзецца Малебен за Беларусь.**

**Пачатак набаженства а 10 гадзіне раніцы, Імпрэза пачнецца а 1 гадзіне па паўдні.**

**Праезд цягнікамі:**
**Q.B, 2, 3, 4, 5 – прып. Atlantic Ave – Pacific str.**
**A, C, G – прып. Hoyt – Schermerhorn, F - прып. Bergen str.**

# Сьвяткаваньні ў Гайленд Парку (Нью Джэрзі)

*Прапануем нашым чытачам дзве інфармацыі пра грамадзка-рэлігійнае жыцьцё ў беларускім асяродку ў Гайленд Парку, якія падрыхтавала Валянціна Трыгубовіч*

## Парафіяльнае сьвята

У нядзелю 22 траўня вернікі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) ушаноўвалі Жыровіцкую ікону Божай Маці. Цэнтрам сьвяткаваньня стала царква ў Гайленд Парку (штат Нью-Джэрзі, ЗША), бо якраз у гонар гэтай іконы высьвяцілі яе заснавальнікі.

Гісторыя Жыровіцкай іконы Божай Маці сягае ў сівую даўніну, у 1470 год. Аднойчы вясковыя пастушкі ўбачылі нейкае зыркае сьвятло, якое ішло ад квітнеючай грушы. Калі яны, зацікаўленыя, падыйшлі бліжэй, то ўбачылі: сьвятло зыходзіць ад выявы Божай Маці з дзіцяткам на руках. Твары былі быццам напісаныя на авальнай каменнай пласьціне памерам зь дзіцячую далонь. Пастушкі забралі гэты скарб з сабою ў вёску, а дарослыя аднесьлі яго ўладальніку навакольных земляў Аляксандру Солтану. Той схаваў набытак у куфэрак. Калі ж праз нейкі час захацеў паказаць знаходку гасьцям, то нічога не адшукаў у куфэрку. А выява Божай Маці тым часам зноў адкрылася дзецям сярод галінак дрэва. І тады пан Солтан і іголюдзі зразумелі, што на гэтым месцы трэба будаваць царкву.

З гэтай царквы, напачатку драўлянай, пачалося мястэчка Жыровічы (Жыровіцы, Жырава), тут паўстаў манастыр, моцны рэлігійна-культурны асяродак. З малітоўнымі просьбамі ды ўдзячнымі паклонамі за аздараўленьне душы і цела ішлі сюды праваслаўныя хрысьціяне (падчас панаваньня вуніі – і грэка-каталікі) з усіх блізкіх і далёкіх ваколіцаў.

Пасьля поўнага заняпаду ў савецкі час манастыр адрадзіўся і зноў штогод прымае паломнікаў і наведнікаў ня толькі зь Беларусі, але і з розных краінаў сьвету. Наведалі Жыровічы (цяпер гэта Гарадзенская вобласьць Рэспублікі Беларусь) у пачатку1990-х і некаторыя з тых, хто ў віхуры Другой сусьветнай вайны змушана пакідаў родную зямлю, бяручы з сабою сярод самага дарагога вышываны ручнік-набожнік ды ікону з покуці бацькоўскай хаты. Вельмі часта гэта была якраз выява Божай Маці Жыровіцкай. Людзі верылі, маліліся – і яна іх абараняла. Таму на чужыне, ствараючы ў амэрыканскім штаце Нью-Джэрзі царкву для сябе і сваіх дзяцей, беларусы назвалі яе ў гонар шанаванай з маленства сьвятыні – іконы Жыровіцкай Божай Маці.

А цудадзейная ікона Жыровіцкай Божай Маці – тая самая, памерам зь дзіцячую далонь, цяпер захоўваецца ў срэбна-пазалочанымківоце ў іканастасе Сьвята-Усьпенскага сабору, галоўнага храму Жыровіцкага праваслаўнага манастыра. За пraмінулыя гады зь яе напісалі шмат копіяў, некаторыя зь іх сталі вельмі славутымі.

Парафіяльнае сьвята ў Гайленд Парку пачалося ўрачыстай архіерэйскай службай. У ёй бралі ўдзел кіруючы епіскап БАПЦ Сьвятаслаў, епіскап Навагрдскі і Паўночнаамэрыканскі (Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква), высокапрасьвяшчэнны архіепіскап Макарыос, правячы епіскап Г'юстанскі і Тэхаскі (Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ), мітрафорныя прātаіерэі Міхаіл (Цюман) і Міхаіл (Федарчак), архімандрыт Серафім, прātаіерэі Зіновій (Жалобак), Пол (Paul Emmick), Пётр (Цюман), Мар'ян (Чайкоўскі), Анатоль (Дохват), Васіль (Крыштамполь), сьвятары Арэст (Пухальскі), Ярaслаў (Ярыш), архідыякан Мікола Лытвынюк. Дзеля ўрачыстай службы ў гонар Жыровіцкай іконы Божай Маці яны прыехалі з розных штатаў Амэрыкі (Тэхас, Пэнсыльванія, Нью-Ёрк, Нью-Джэрзі, Мэрылэнд), з Канады і Украіны.

Царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента Якуба Сапяжынскага можна, відаць, у гэты раз назваць зводным хорам, бо яго звыклыя шэрагі папоўнілі пеўчыя з Сабору сьв. Кірылы Тураўскага (Бруклін, Нью-Ёрк), прыхаджане якога салідарна, з добрым настроем прыехалі на сьвята да сваіх братоў і сёстраў.

Паліфанічнасьць сьвяточнай службе надавала ўжываньне чатырох моваў – беларускай, царкоўна-славянскай, украінскай і ангельскай. Асобныя фрагмэнты Евангельля і малітвы праз гэта чыталіся паўторна, дык кожны прысутны мог лепш перадумаць і адчуць усю глыбіню зьместу, эмацыйную напоўненасьць яго. Традыцыйную нядзельную пропаведзь (22 траўня – аб самаранцы) сказаў архіепіскап Макарыос. Гэта было вельмі пранікнёнае разважаньне пра дачыненьні людзей, пра тое, як сваёй гутаркай з жанчынай-самаранкай Хрыстос руйнуе пагардлівыя людскія звычаі, вучыць любові і павазе, шанаваньню праўды і спавяданьню веры. Эмацыйная, артыстычная манера выступу, наўпростая камунікацыя прамоўцы з прысутнымі спрыялі павышанай увазе да архіепіскапа Макарыоса і, пэўна, яго словы пакінулі свой сьлед у многіх сэрцах і душах.

Людным і ўрачыстым быў хросны ход, дзе кожны прагнуў трапіць пад пырскі, калі сьвятар браўся за крапільніцу. Цёплыя і шчырыя вітальныя словы знайшоў для прамовы Уладыка Сьвятаслаў, ён шчодра зычыў дабра і здароўя ўсім прысутным, волі і незалежнасьці – суродзічам на Бацькаўшчыне. Настаяцель храма а. Зіновій сардэчна падзякаваў пастырам, якія адклалі свае ўласныя справы і клопаты дзеля паездкі на сьвята царквы Жыровіцкай іконы Божай Маці, дабраславіў усіх, хто прымаў удзел у службе і падрыхтоўцы парафіяльных урачыстасьцяў.

Пасля завяршэньня багаслужбы сьвята працягвалася ў грамадска-культурнай залі, дзе стараньнямі царкоўнай рады (найперш яе старшыні – Віктара Дубягі) і сястрыцтва быў зроблены смачны і шчодры абед. Тут быў час для абмену думкамі, для выступаў і прамоваў, для дыскусій… Па традыцыі, ладзілася лятарэя, прыбыткі ад якой пайшлі ў царкоўную скарбонку разам з іншымі ахвяраваньнямі, рупліва сабранымі ў гэты дзень. Бо людзі, якія прыйшлі на парафіяльнае сьвята, шануюць сваю царкву, сваю сьвятую патронку і нябесную заступніцу – Жыровіцкую Божую Маці, імкнуцца перадаць сваю веру дзецям і ўнукам, зьберагчы разам зь імі народныя традыцыі і гістарычную праўду. І хіба толькі са скрухай могуць паўтарыць усьлед за Ларысай Геніюш:

*Шкадую сэрцам,*
*што не пастушок я,*
*які ўбачыў той сьвяты абраз.*



Пад час службы



Да вернікаў зьвяртаецца Уладыка Сьвятаслаў

## Сабор Беларускіх сьвятых

Архірэйскай службай адзначылі вернікі царквы Жыровіцкай іконы Божае Маці й Сабор Беларускіх сьвятых, сьвяткаваньне якога адбылося 3 ліпеня. У гэты дзень да іх прыехаў Уладыка Серафім, нававысьвячаны епіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, які мае тытул Віленскі і Ньюёркскі. Гэта была яго першая служба ў Гайленд Парку ў якасьці епіскапа. І калі ён прамаўляў да прысутных, то яго словы ўзрушвалі, давалі спажыву для роздуму, натхнялі надзеяй. А гаварыў Уладыка Серафім пра нашу адказнасьць перад Госпадам за ўсе свае справы й намеры, пра тое, што бяз волі Божай, безь яго спрыяньня нічога добрага для ўласнага збаўленьня й лажджаньня справядлівага грамадзкага жыцьця чалавек зрабіць ня можа, пра ахвярнае служэньне Богу й людзям тых падзьвіжнікаў, якія цяпер кананізаваныя Царквою ды складаюць Сабор Беларускіх сьвятых. Епіскап Серафім адзначыў людское цярпеньне й выказаў спадзяваньне, што праўда й справядлівасьць у нашым агульным беларускім доме неўзабаве перамогуць, бо ":Жыве Беларусь!" І сэрцы прысутных адгукнуліся: "Жыве з Богам!".

Настаяцель храму айцец Зіновій у канцы сьвяточнай службы шчыра падзякаваў епіскапу Серафіму за ўвагу да парафіі, выказаў радасьць прыхаджан ад сустрэчы з нававысьвячаным епіскапам, якога нядаўна тут мелі гонар прымаць яшчэ ў якасьці архімандрыта, пажадаў яму добрай дарогі й хутчэйшага вяртаньня ў Амэрыку. (Уладыка Серафім меўся ў той самы дзень ляцець ва Украіну дзеля завяршэньня сваіх папярэдніх спраў.)

Сьвята прадоўжылася традыцыйным пачастункам і цікавымі гутаркамі ў грамадзка-культурнай залі.

# Беларускі фестываль у Саўт Рывэры

Ужо дзесяты раз зладзіла сёлета Беларуская праваслаўная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай свой штогадовы “Беларускі фестываль”. Сьвята адбылося ў суботу 23 ліпеня ў Беларускім грамадзка-культурным цэнтры ў Саўт Рывэры.

Парафіяльны камітэт на чале з Жоржам Лешчанкам прыклаў шмат высілкаў, каб сьвята адбылося і пакінула добрыя ўспаміны ва ўсіх, хто не пашкадаваў выходнага дня, каб пабыць разам у беларускай грамадзе, пачуць беларускія мелёды ды пачаставацца смачнымі стравамі.

Суботні дзень выдаўся сонечным і даволі гарачым, але дажджу не было і нішто не перашкаджала весяліцца не толькі ў памяшканьні, але і на дварэ. Усюды было весела і добра сарганізавана. У 11 гадзін раніцы, калі значыўся пачатак сьвята ў аб’яве, людзей было яшчэ малавата і нават падумалася, што можа і не зьбяруцца, але потым вялікая заля напоўнілася так, што нават было цяжка знайсьці вольнае месца.

Па словах сп-ні Надзі Запруднік сёлетні фестываль больш арганізоўвала моладзь, маладзейшыя пераняли ініцыятыву і вельмі актыўна ўзяліся за справу - Ліля Тур, Каця Мэрлоў,Таня Музыка і шмат іншых. Гэткая сытуацыя можа выклікаць зайздрасьць у шмат якіх беларускіх асяродкаў, дзе беларускае жыцьцё заціхае з адыходам старэйшага пакаленьня эміграцыі і дзе моладзь не выяўляе такой актыўнасьці.

Як заўсёды цудоўную канцэртную праграму падрыхтавалі Таня і Валянцін Дзямешчыкі. Яна пачалася ў залі, а потым працягвалася на траве і ізноў пераняслася на завяршэньне ў залю.

Усім вядомая і паважаная сп-ня Віла Леўчук падрыхтавала выступ танцавальнага гурта “Лянок”. Імклівая “Лявоніха” ў выкананьні жанчынаў у прыгожых беларускіх строях спадабалася ўсім.

Дзіцячая група “Лянка” таксама танчыла не горш за дарослых, хаця на траве і ў сьпёку было гэта малым не так лёгка.

Асаблівую замілаванасьць выклікаў у слухачоў выступ наймалодшага саліста са сьветлымі ільнянымі валасамі і тыповым беларускім абліччам Мікіты Ярыгіна. Ён так адважна і гучна сьпяваў “Цік-так, ходзікі! Мне чатыры годзікі. Чуб бялявы, сьветларусы, тата з мамай - беларусы”, што ўсе былі вельмі расчуленыя і нават падпявалі маленькаму салісту.



Танцавальны гурт “Лявоніха”



Мікіта Ярыгін

Так жа многім хацелася падпяваць і наступным маленькім сьпевакам Мікіту Зэкаву і Джастыну Сапуну, якія з вялікім імпэтам выканалі песьню “Мікіта”.



Мікіта Зэкаў (справа) і Джасцін Сапун

Дзяўчынкі таксама не адставалі і бралі чынны ўдзел у канцэрце. Прачулена і з захапленьнем прасьпявала знакамітую “Купалінку” 9-гадовая Трыніці Сапун, яна яшчэ немаўляткам засынала пад гэтую мелёдыю, падрасла і цяпер сама сьпявае ўлюбёную песьню.

Маленькая госьця фестывалю украінка Кіра Карніенка прасьпявала песьні на украінскай і ангельскай мовах, а потым разам з Эрыкам Шпрынцам яны паказалі цудоўную сцэнку “Брадвэйскае шоу”, дзе вельмі прыгожа сьпявалі дуэтам.

Са сцэны былі зачытаныя прывітаньні ўдзельнікам фестывалю ад Рэдакцыі газэты “Наша Ніва” зь Менску і ад Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”.

Нікога не пакінула абыякавым усімі любімая песьня “Жураўлі на Палесьсе ляцяць”, якую пранікнёна сьпявала Анастасія Стралец. Пра палескія краявіды ўспомнілі са сцэны маці і дачка – Раіса і Ірына Пакроўныя, яны родам з гэтых мясьцінаў і цудоўна прасьпявалі некалькі песьняў, якія прывезьлі з Радзімы. Аманда Тур парадавала слухачоў знакамітымі “Рушнікамі”, а Вікторыя Людовік прасьпявала ангельскую мэлёдыю. Не ўтрымаліся і засьпявалі яшчэ раз на фестывалі “Купалінку” Таня Дзямешчык з дачкою. Канцэртную праграму і ўвогуле ўсё сьвята ўпрыгожылі сваімі сьпевамі Таня і Валянцін Дзямешчыкі, якіх любяць і паважаюць у Саўт Рывэры за іх самаадданую працу ў справе падтрымкі там беларускай культуры.

На фестываль прыйшлі не толькі беларусы, але гучная падзея зацікавіла і іншых насельнікаў Саўт Рывэру, якія таксама прыйшлі паглядзець на маляўнічыя беларускія танцы і паслухаць сьпевы. Шмат хто зьвярнуў увагу на высокага сымпатычнага чалавека з прафесійным фотапаратам, які стараўся зняць усе найбольш адметныя моманты сьвята і людзей. Аказалася, што гэта амэрыканец нямецкага паходжаньня Джон Кунстадтэр , які некаторы час працаваў ў амэрыканскай амбасадзе ў Беларусі і ў той час захапіўся беларускай культураю, гісторыяй, асабліва беларускімі краявідамі. Ён нават вывучыў беларускую мову і зь ім можна размаўляць па беларуску. Сп. Кунстадтэр аб’ездзіў з фотапаратам амаль усю Беларусь і зрабіў у Менску выставу беларускіх краявідаў. І вось зараз з Чыкага прыехаў адмыслова на фестываль, каб зрабіць фота для сваёй новай сэрыі “Кола году” пра беларускія нацыянальныя звычаі і сьвяты.

Душу гасьцей радавала музыка, сьпевы, танцы, але арганізатары не забыліся і на патрэбы страўніка. Жанчыны зь сястрыцтва пад кіраўніцтвам Лілі Гіляш згатавалі смачныя гарачыя стравы. Усе дзякавалі за іх асабліва Соні Арцюшэнка, якая ўжо шмат гадоў гатуе пачастункі ў Беларускім цэнтры. Адказны за залю і бар з напоямі Жорж Навумчык з натхненьнем паставіўся да сваіх абавязкаў. Заля была прыгожа прыбраная, прадавалася шмат сувеніраў, бар працаваў напоўніцу і ў сьпёку можна было лёгка наталіць смагу халоднымі напоямі. А ў двары шчыравалі пры печы тыя, хто майстры на барбэк’ю, у Амэрыцы беларусы ўжо добра навучыліся гатаваць і тутэйшыя ўлюбёныя стравы. Жорж Лешчанка, Коля Бахар і Баб Цупрык ледзь пасьпявалі гатаваць гэтыя прысмакі, бо шмат хто хацеў іх пакаштаваць.

Ну, і, вядома, усеагульны інтарэс выклікала лятарэя. Усе прызы былі выстаўленыя на сталах пасярэдзіне залі і выглядалі надзвычай прывабна, так што ахвочых купіць білеты было шмат, мабыць, ніхто не утрымаўся, каб не ўзяць удзел у розыгрышы. Таня Музыка па майстэрску вяла рэй у гэтай справе і кожнаму хацелася, каб Таня назвала менавіта ягоны нумар на білецiку. Трэба сказаць, што многім пашанцавала і яны адыходзілі дадому з цэлым бярэмем падарункаў. Асабліва радаваліся дзеці. Джастын Сапун выйграў цэлую сям’ю цацачных мягкіх васьміногаў і нават разгубіўся, куды іх цяпер Я.

Сьвята цягнулася да позьняга вечара. Людзі разыходзіліся ў добрым настроі, цешыліся, што пабачыліся і нагаварыліся зь сябрамі і знаёмымі, зрабілі фота на памяць, наслухаліся родных мелёдыяў, натанцаваліся і нешта купілі прыемнае ці патрэбнае, што дзеткі набегаліся і добра адпачылі, што самі мелі добры адпачынак ад штодзённых клопатаў. Было відавочна, што такія сьвяты патрэбныя людзям, што яны гуртуюць беларускую грамаду, не даюць затухнуць беларускаму жыцьцю ў Саўт Рывэры, дзе здавён пасяліліся беларускія эмігранты і знайшлі тут другую радзіму, але захоўваюць памяць пра тую далёкую, за акіянам, зямлю сваіх продкаў, дзе назаўсёды засталіся іх карані.

*Ганна Сурмач*
*(Фота Янкі Запрудніка)*



Трыніці Сапун

# Непрадбачаны шлях

***9 жніўня споўнілася 85 гадоў ад нараджэньня ведамага дзеяча беларускага замежжа – гісторыка, палітоляга, публіцыста, журналіста, літаратара і грамадзкага дзеяча сп. Янкі Запрудніка.***

***Янка Запруднік нарадзіўся 9 жніўня 1926 г. у мястэчку Мір Наваградзкага павету. У 1942 – 1944 гг. вучыўся ў прагімназіі й гандлёвай школе ў Баранавічах. Зь лета 1944 г. на эміграцыі. Браў удзел у беларускім скаўцкім руху. У 1948 – 1950 г. працаваў на шахтах у Вялікабрытаніі. Скончыў гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія, 1954), працаваў рэдактарам беларускай службы радыё "Свабода". З 1957 г. у ЗША. Абараніў у Ньюёркскім унівэрсытэце доктарскую дысэртацыю "Палітычнае змаганьне за Беларусь у царскай Дзяржаўнай думе. 1906 – 1917" (1969). Працаваў у ньюёркскім аддзеле радыё "Свабода" (1957 – 1991). Рэдагаваў газэту "Беларус". Аўтар кніг "Belarus: At a Crossroads in History" ("Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях") і "Historical Dictionary of Belarus" ("Гістарычны слоўнік Беларусі").***

***Сёньня сп. Запруднік жыве ў горадзе Самэрсэт, штат Нью Джэрзі, актыўна ўдзельнічае ў беларускім грамадзкім жыцьці й няспынна працуе над новымі публікацыямі.***

***Размову з юбілярам з нагоды ягонага сьвята запісала Ганна Сурмач.***



**Янка Запруднік з жонкаю Надзеяю**

**Сурмач:** Пяць гадоў таму, працуючы ў беларускай рэдакцыі радыё "Свабода" ў Празе, я рыхтавала перадачу да 80-гадовага юбілею сп. Янкі. Здаецца, што гэта было зусім нядаўна. Сёньня
я запыталася ў юбіляра, як для яго самога прабеглі гэтыя гады, што ўдалося зрабіць ў творчым і навуковым накірунках?

**Запруднік:** Каліападае на зямлю яблык, ён ляціць тым хутчэй, чым бліжэй да зямлі. З чалавекам у ягонай творчай працы наадварот – чым бліжэй да зямлі, тым павальней. У маім выпадку, адпаў удзел у навуковых канфэрэнцыях, увага засярэдзілася больш на парадкаваньні таго, што накапілася. Але адбываецца й адваротнае: непаслабна наплываюць абавязкі, зьвязаныя з рэдагаваньнем, рэцэнзаваньнем ды ліставаньнем. Апошнім часам давялося раптам пісаць нэкралёгі па сяброх. Амаль тры гады ўжо займаюся апрацоўваньнем ілюстраванае кнігі пра беларускія фэстывалі ў Нью Джэрзі ад самага пачатку іх і аж да нашых дзён. Нудзіцца няма калі.

**Сурмач :** Сп. Янка, я назвала гэтую нашу гутарку з Вамі "Непрадбачаны шлях". Менавіта так Вы назвалі свой шлях ў эміграцыю ў Вашай кнізе "Дванаццатка". Эміграцыя сталася Вашым жыцьцёвым наканаваньнем, пра якое не думалася ні Вашым бацькам і ні Вам у юнацкія гады. Выглядае, што гэты "непрадбачаны шлях" даў Вам большыя, чым на Радзіме, магчымасьці для самарэалізацыі. Аднак, ці не шкадуеце зараз, што большую частку жыцьця пражылі на чужыне? Гэтая раздвоенасьць паміж старою і новаю радзімамі – цяжкая ноша на жыцьцёвым шляху, ці не так?

**Запруднік:** "Раздвоенасьць паміж старою і новаю радзімамі", бязумоўна, была "цяжкай ношай" (асабліва ростань з роднымі), але яна й на карысьць пайшла, бо дала магчымасьць атрымаць на Захадзе адукацыю ды пазнаць вонкавы сьвет. Веда пра гэты сьвет дапамагла зразумець патрэбы й магчымасьці "старой радзімы". Пры сёньняшняй рэтраспэктыве, выезд на чужыну ў 1944 г., хоць і вымушаны абставінамі, апраўдаў сябе. Як паказала далейшая хада гісторыі, ён быў вешчым. Сёньня маса беларусаў хацелі б быць на Захадзе. А зь іншага боку, беларускія эмігранты шмат зрабілі, і далей шмат робяць, для палітычнага вызваленьня й нацыянальнага адраджэньня Бацькаўшчыны, а таксама для сваіх родзічаў і суродзічаў у Беларусі.

**Сурмач :** Сп. Янка, мяне вельмі ўразіў Ваш верш, напісаны яшчэ ў 1952 годзе - "Тут і недзе". Жывучы ў вольным сьвеце, паваенны эмігрант ва ўтульных ўмовах свайго быту на чужыне ні на хвілінку не забываецца пра тое, што ў гэты час робіцца на Бацькаўшчыне:

*Нас пяшчотна прылашчыў утульны пакой ,*
*Нам так добра на чыстых паркетах…*
*Недзе ж сьцены дубоў сьцерагуць супакой*
*І зямлянак змаганьнем сагрэтых.*
*У руках нашых штодня кілішкаў крышталь,*
*А Радзіма – у ружовенькіх крозах…*
*Недзе ж права на быт наш вырэзвае сталь*
*У сьпякотах ды ў дзікіх марозах.*
*Недзе жорсткасьць, надзея, упорыстасьць, кроў,*
*Веліч веры і зморанасьць целаў…*

Верш мне падаецца вельмі актуальным адносна сучаснай сытуацыі ў Беларусі і на эміграцыі.

**Запруднік:** У вершы, зь якога Вы тут працытавалі, гутарка йдзе пра збройнае змаганьне ў падсавецкай Беларусі. Сёньня сытуацыя радыкальна іншая, сёньня йдзе змаганьне палітычнае ды, я сказаў бы, экзыстэнцыяльнае, змаганьне за выжываньне беларусаў як культурна самабытнае нацыі. Падабенства з папярэднім пэрыядам застаецца толькі ў абыякавасьці шмат каго з эмігрантаў у дачыненьні да айчынных абаронцаў беларушчыны й пакутнікаў за дэмакратычныя каштоўнасьці для краіны.

**Сурмач :** Як гісторык, палітоляг, публіцыст, што можаце сказаць пра будучыню Беларусі?

**Запруднік:** Магу толькі сказаць, што Беларусь незьнішчальная. Нельга поўнасьцяй зацерці векавую культурную спадчыну продкаў. Спадчыну гэтую трэба закладаць у падмурак сучаснай беларускай дзяржавы. Будучыня Беларусі будзе вельмі шмат залежаць ад таго, наколькі сучасьнікі й нашчадкі будуць рэалізаваць заклік Янкі Купалы: "Пачнём някратаны паданьні сачыць пад бацькаўскай страхой, шукаць ад раньня і да раньня, але няхай шукае свой". Сувязь каранёў з кронай дуба – вось асноўная мэтафара для далейшага нацыянальнага руху.

**Сурмач :** Палітыкі і аналітыкі прадказваюць хуткі крах дыктатарскага рэжыму, але што далей? Ці будзе здольным сучаснае беларускае грамадзтва пабудаваць нешта лепшае? Ці ўдасца дэмакратычным сілам прыйсьці да ўлады і ўтрымаць яе, ці ізноў вынікі змаганьня могуць быць скарыстанымі антыбеларускімі сіламі?

**Запруднік:** Прадказваць будучыню – што ў лятарэю гуляць, часьцей за ўсё выходзіць промах. Тут можна гаварыць толькі пра спадзяваньні-жаданьні, надзею, а можа й веру. Яны – таксама гістарычны фактар. А што да "хуткага краху", дык у эканоміцы яго прадказвалі яшчэ ў 90-х гадах. Гісторыя, відаць, нагнала на беларусаў ні то страх перад "хуткімі крахамі" ні то адпорнасьць на іх. Рэч тут у тым, думаецца, што ацэнкі сучаснай сытуацыі ў Беларусі крытыкі даюць найчасьцей з большай або меншай дамешкай эмоцыяў і жаданьняў. Адсюль прадказваньне хуткіх зьменаў. А калі ацэньваць пэрспэктыву з увагай на тое, прыкладам, як рэзка пайшоў наніз апошнім часам патэнцыял дэмакратычнай апазыцыі ды як па-дзікаму рэагуе рэжым на выявы незалежнай думкі, дык выглядае, што "хуткае" прыйдзе шмат пазьней, чымся нам гэтага хацелася б. А таму для нармальнага самаадчуваньня трэба запасацца вытрываласьцяй на доўгі час. І разам з тым трэба непахісна верыць у здольнасьць беларускага народу пабудаваць справялівы палітычны лад, за які цяпер вядзецца змаганьне.

**Сурмач:** Сп. Янка, прыміце самыя шчырыя і цёплыя віншаваньні ад Рэдакцыі нашай газэты, рэдактарам якой Вы некалі былі і шмат паспрыялі таму, каб выданьне дажыло да сёньняшняга часу. Мы жадаем Вам добрага здароўя і далейшай плённай працы на карысьць нашай агульнай беларускай справы.
А я асабіста вельмі хацела б праз пяць гадоў ізноў распытаць Вас пра творчыя набыткі. Дык трымайцеся, сп. Янка, цешцеся на кожны новы дзень і натхняйце нас сваім нязгасным аптымізмам і працавітасьцю!

**Са слаўным юбілеем Янку Запрудніка сардэчна віншуюць і зычаць яму доўгіх гадоў плённага і шчасьлівага жыцьця -**
*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Рада Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"*
*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*
*Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва*
*Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага*

# “Доля нам пашчасьціла сустрэцца”

Першы раз у жыцьці мне выпала трапіць на адзначэньне дня народзінаў чалавека вельмі паважнага веку , які не чуцца пры гэтым “прыціснутым” тым векам. “Віноўнік урачыстасьцяў” выглядаў проста інтэлігентным мужчынам у росквіце сілаў – разважным, дасьціпным, іранічным. Немагчыма было паверыць, што сьвяткуем мы ягонае 85-годзьдзе. З гэтай слаўнай нагоды 14 жніўня ў Беларускай грамадзкай залі сп. Янка Запруднік прымаў гасьцей.

Застольле ладзілася па-сямейнаму – цесным колам родных, сваякоў і старых сяброў, пачалося адразу пасьля службы ў царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай, дзе хор і ўсе прысутныя прасьпявалі Янку Запрудніку “Многая лета”.

Імпрэзу вёў даўні паплечнік юбіляра, яшчэ з лягераў DP у Нямеччыне, Вітаўт Кіпель. Юнацкія пляны і мары служыць Беларусі, падмацаваныя грунтоўнымі ведамі і патрыятызмам, які трывала ўзгадоўвалі настаўнікі Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, абодва пранесьлі праз усё сваё жыцьцё. Яны да сёньня не згубілі звычкі абмяркоўваць і ўзгадняць свае дзеяньні, працаваць супольна. На сьвяце былі прысутныя Ала Орса-Рамана і Вячка Станкевіч, таксама былыя гімназісты. Сп. Станкевіч падзяліўся ўспамінамі пра іх агульнае далёкае юнацтва, скаўцкія спаборніцтвы, распавядаў пра пазьнейшую супрацу з Янкам Запруднікам на радыё Свабода.

Гаворку на чыста сямейную тэму пачала – вельмі эмацыйна і глыбока – Вера Запруднік, малодшая дачка юбіляра. Яна эмацыйна гаварыла пра тое, што праз усё жыцьцё бацька для яе – узор чалавека, сябра, дарадцы… І Ніна, яе старэйшая сястра, знайшла што дадаць у гэты прыгожы букет пашаны і любові.

Спадарыня Ала Кузьміцкая, удава Васіля Шчэцькі, субрата Янкі Запрудніка па славутай “Дванаццатцы”, пачала свой выступ з падзякі сужэнству Запруднікаў – Янку і Надзі, якія ўвесь час маральна падмацоўваюць яе, дапамагаюць, асабліва ў цяжкія хвіліны жыцьця. Сапраўды, ахвярнасьць, гатоўнасьць падтрымаць добрую справу ці чалавека ў бядзе – неад’емная рыса гэтай сям’і. Завадатар вельмі часта – спадарыня Надзя, дабрачыннасьць якой бярэ вытокі зь сямейнай традыцыі Рагалевічаў. І на юбілейныя ўрачыстасьці яе пляменьнікі, іх дзеці і ўнукі прыехалі з розных штатаў Амэрыкі, нават з далёкага арабскага Дубаі родзічы прыехалі на гасьціну.




Валянціна Трыгубовіч у сваім выступе як бы пашырыла сямейнае кола Запруднікаў, далучыла да яго ўсіх тых, хто ў Беларусі ведае і шануе 85-гадовага змагара за незалежнасьць Бацькаўшчыны, карыстаецца ягоным гістарычным досьведам, аналітычнымі развагамі, спадзяецца на падтрымку ў зьберажэньні моўных і культурных нацыянальных традыцый, разьвіцьця рэлігійнага жыцьця. Да дня народзінаў Янка Запруднік атрымаў больш за паўсотні віншаваньняў, пераважна – якраз зь Беларусі.

Пра творчы даробак свайго сябра добра распавёў Вітаўт Кіпель. Ён нават прынёс з сабою торбу кніжак, каб паказаць, што напісаў і выдаў Янка Запруднік: пра маладосьць пакаленьня, якое самаахвярна працавала на беларускай ніве (“Дванаццатка”), пра гісторыю Беларусі для заходняга сьвету (“Belarus. At a Crossroads in History”), “Historical Dictionary of Belarus” (другое выд. супольна зь Віталем Сіліцкім) ды іншыя. А яшчэ 15-гадовае рэдагаваньне газэты “Беларус” і шмат дзесяцігодзьдзяў актыўнага ўдзелу ў беларускай эміграцыйнай пэрыёдыцы, плюс тысячы скрыптаў для радыё Свабода, якія дапамагалі руйнаваць ідэалягічныя падмуркі Савецкага Саюзу. Цяпер імя Янкі Запрудніка прысутнічае ў энцыкляпэдыях і даведніках, выдадзеных у Беларусі. Але некаторыя моманты біяграфіі пры гэтым сьвядома замоўчваюцца, як, прыкладам, ягоная пасьлядоўная рэлігійнасьць.



Сярод атрыманых падарункаў юбіляру асабліва прыпаў да душы вялікі насьценны малюнак Мірскага замку, выкананы Оляй і Валянцінам Дзямешчыкамі. Амаль каля самага гэтага замку, як прыгадаў ён, была калісьці ягоная сямігодка.

Янка Запруднік таксама выступіў з прамовай - экзістэнцыйным роздумам пра жыцьцё і чалавечае прызначэньне. Але яшчэ большы посьпех у прысутных мела іншая праява ягонага таленту: да свайго 85-годзьдзя ён напісаў тэкст песьні “Птушка шчасьця”, прысьвечаны дарагой жонцы Надзі (радок з прыпеву вынесены ў загаловак). І сам прасьпяваў яе ля мікрафона пры падтрымцы (музычнай і вакальнай) Таццяны і Валянціна Дзямешчыкаў ды іхняга сына-музыкі Сярожкі. Мэлёдыя песьні “пазычаная” ў “Шэрбургскіх парасонікаў”. Але зроблена было ўсё адмыслова! Як тут не згадаць студэнцкія гады юбіляра, калі на ягоныя вершы (паэта Сяргея Ясеня) пісалі песьні Мікола Равенскі ды Алесь Карповіч. Некаторыя з тых твораў нават запісваліся на кружэлкі.

Дзякуючы ўсім за ўшанаваньне, юбіляр адзначыў сямейную й сяброўскую салідарнасьць, а таксама кулінарнае мастацтва спадарыні Соні Арцішэнка ды ейных жанчын-супрацоўніц, якія забясьпечылі гасьцям густоўную ежу.

Да сьвяточнай імпрэзы сюрпрыз падрыхтавала і Надзя: яна сьпякла каравай, які прысутныя дзеці ўрачыста вывезьлі да гасьцей, каб юбіляр, пад супольны сьпеў “Happy Birthday”, задзьмуў традыцыйныя сьвечкі. Такі пірог у Амэрыцы – унікальная рэч.

Вальс, прыгожа выкананы сямейнай парай Янкі і Надзі Запруднікаў, стаўся тым заключным чыньнікам, які канчаткова сьцьвердзіў: каляндарны век – не дыктатар нашых паводзінаў.

*В.Т.*

## Вестка з Канады

На ўрачыстай цырымоніі наданьня грамадзянства Канады 25 новым кандыдатам, у прысутнасьці брытанскага прынца Уільяма і ягонай жонкі Кэйт, якія ў гэты час былі з візытам ў Канадзе з нагоды нацыянальнага сьвята, першай краінаю, якую назвалі сярод тых, чые ураджэнцы рыхтаваліся стаць канадыйцамі, была названая Беларусь. Да таго ж аказалася, што новаю грамадзянкаю Канады стала беларуска, якую прывезьлі ў гэтую краіну яшчэ дзяўчынкаю на аздараўленьне, як пацярпелую ад Чарнобыля. Яна была сярод тых беларускіх дзяцей, якім аказваў дапамогу адмысловы фонд, створаны беларусамі Канады начале з сёньняшняю старшынёю Рады БНР Івонкаю Сурвілла.

# Шчырая споведзь і трывожны роздум

*У Менску выйшла арыгінальная кніга Рыгора Барадуліна "Толькі б яўрэі былі!...". У ёй сабраныя ягоныя эсэ, нарысы, рэцэнзіі, творчыя партрэты, уласныя вершы, шматлікія пераклады, прысьвячэньні. У якасьці водгука на гэтае выданьне прапаную чытачам "Беларуса" сваю прадмову да кнігі.*

*Ванкарэм Нікіфаровіч Чыкага*



Адзін з лепшых на сваёй радзіме і ў сьвеце сучасных паэтаў прапануе сваім чытачам не зусім звычайную кнігу. Яе зьмест зьвязаны з усім жыцьцём і творчасьцю Рыгора Барадуліна, з ягоным увесь час у розныя гады, ужо больш за палову стагодьдзя, асэнсаваньнем жыцьця і роздумам над тым, што адбываецца побач, у родных мясьцінах, там, дзе ён жыве, і ў розных краінах – і параўнаўча блізкіх, і далёкіх.

А на беларускай зямлі яўрэі і беларусы заўсёды жылі побач, у нейкім побытава-духоўным яднаньні. Кантакт гэты даваў урэшце па вялікім рахунку толькі ўзаемную карысьць. Але было і шмат трагічных старонак у гісторыі. Таму і гучыць у вершах, перакладах, эсэ, вершаваных ліставаньнях Рыгора Барадуліна заклапочана-трывожны роздум пра лёс яўрэйскага народу і ягонай цудоўнай мовы ідыш, якая, на жаль, амаль знікла. Таму і ўзьнікаюць думкі пра далейшы лёс і мовы беларускай, мовы тых, хто заўсёды жылі і былі з яўрэямі разам...

Гэта паэтава асэнсаваньне ідзе, вядома, ад рэалій жыцьця; але яно падтрымліваецца і пэўнымі традыцыямі, закладзенымі ў сучаснай беларускай літаратуры. Рыгор Барадулін усёй сваёй творчасьцю, у тым ліку і кнігай "Толькі б яўрэі былі!..", пераконвае, што ён падхапіў творчую эстафету ад Янкі Купалы, працягваючы словам і вобразнасьцю уздымаць да незвычайнай вышыні, як філасофскай, так і эстэтычнай, такія сьветапоглядныя катэгорыі як мова, народ, свабода, незалежнасьць. Міжволі прыгадваецца славуты Купалаўскі зварот да яўрэяў, што жылі побач:

*Нявольнікі вы сёньня з намі разам*
*На беларускай змучанай зямлі,*
*Дзе чорны зьдзек пасьвенчаны абразам*
*Гняце нас разам, як зьвяр'ё, ў крутой пятлі.*

У тым жа вершы Янка Купала нагадвае яўрэям, што *"адны вас беларусы шанавалі, як блізкіх родных – да сьвятлейшае пары"* і што *"Беларусь пад крыльлямі сваімі вас грэла й вашым нянькаю была дзіцям"*. А Рыгор Барадулін у сваіх перакладах твораў яўрэйскіх паэтаў, у нарысах пра іх і пра вядомых дзеячоў яўрэйскай культуры і мастацтва своеасабліва працягвае купалаўскую думку-выснову, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на тых творцаў, якія давалі ўзоры выдатнейшага вобразнага беларуска-яўрэйскага сугучча. Напрыклад, на Марка Шагала. Прыгадаем толькі вобразныя кампазыцыі шэрагу шагалаўскіх цудоўных твораў. Закаханыя персанажы ў іх лятуць над Віцебскам можа таму, што імкнуцца туды, куды (напісана мастаком і паэтам амаль адначасова) і лірычны герой Янкі Купалы: *"К зорам агністым, к прывольлю нябеснаму, вырваўшы з ціны жыцьцёвай душу, мчыся, не дайся цярпеньню балеснаму, горда пакінь земляную глушу! К зорам, што так над табой разгараюцца льніста ў мільённай на небе сяўбе, рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца..."*.

Цытую ўсё гэта падрабязна таму, што інтанацыйна-вобразная сувязь з узорамі клясікаў мне вельмі выразна бачыцца і ў прыцішаных, але выпакутаваных радках аўтара кнігі "Толькі б яўрэі былі!..":

*Апошнія паэты яўрэйскія.*
*Каму чытаць ім вершы свае на ідыш?*
*Ці ветру ў полі,*
*Ці дрэву, якому*
*журба дагінае гольле?*
*Верш кожны на ідыш, як той падкідыш, –*
*Прылашчыць няма каму...*




І яшчэ на адзін сьветапоглядны аспэкт Рыгора Барадуліна нельга не звярнуць увагу, чытаючы гэту кнігу. Маецца на ўвазе ягонае агульнае адчуваньне і разуменьне творчага працэсу, і арыгінальнага, і перакладнога, заснаванага на вельмі глыбокім вызначэньні-закліку славутага Максіма Багдановіча "ня толькі свайму народу, але і сусьветнай культуры несьці свой дар". Адсюль і мастацкі ўзровень і арыгінальнай творчасьці Рыгора Барадуліна, і яго самаадданай перакладчыцкай дзейнасьці. Ён добра разумее неабходнасьць увесьці ў нацыянальны беларускі культуралагічны кантэкст шэдэўры сусьветнай клясікі і лепшыя творы сучаснай літаратуры розных краін і народаў. Прапанаваныя ў гэтай кніжцы пераклады твораў яўрэйскіх паэтаў – толькі частка той спадчыны розных народаў з розных краінаў сьвету, якую Барадулін цудоўна агучвае на сваёй роднай мове. Адначасова ён яшчэ і яшчэ раз паказвае чытачам неабмежаваныя магчымасьці беларускай мовы, на якую могуць быць пасьпяхова пераствораны іншыя сугуччы з блізкіх і далёкіх моваў, не падобныя і своеасаблівыя рытмы, вобразы, думкі...

Найвышэйшы мастацкі ўзровень вылучае вершаваныя прысьвячэньні Рыгора Барадуліна вядомым дзеячам яўрэйскай культуры – Марку Шагалу, Рыгору Бярозкіну, Заіру Азгуру, Рыгору Рэлесу, Навуму Кісліку і многім іншым. Найцудоўнейшыя ўзоры сапраўднай паэзіі – вершы паэта, створаныя непасрэдна на тэмы са шматпакутнага жыцьця яўрэяў: "Апошнія паэты яўрэйскія", "Над Ямай", "Шалом, Ерусалім" і асабліва кранаючы душу і сэрца цыкл "Стане Віфліеемам сэрца", напісаны ў выніку спатканьня са сьвятой зямлёй Ізраіля. Асобныя радкі з гэтага выпакутаванага паэтычнага асэнсаваньня ўваходзяць у сьвядомасьць адразу і застаюцца з табою на ўсё жыцьцё.

*Чый Бог адзін за ўсіх хварэе?*
*Сьмяецца з нашых звадаў лёс.*
*Бо ў старасьці мы ўсе –*
*Яўрэі,*
*Як малады Ісус Хрыстос.*

Падзякуем Рыгора Барадуліна за падрыхтоўку гэтай унікальнай кнігі з такім вельмі аналітычным і актуальным гучаньнем. Яна не падобная да многага, што выдаецца сёньня ў розных краінах сьвету. Але яна вельмі патрэбная і як кранальны напамін аб тым, што было, і як заклік задумацца над многімі праблемамі будучыні.

# Зьезд Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ

Зьезд Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ прайшоў 27 жніўня ў Палацы культуры Менскага трактарнага заводу.

Старшынём партыі зноў абраны Зянон Пазьняк, за яго аднагалосна прагаласавалі ўсе дэлегаты. Намесьнікамі старшыні КХП БНФ абраныя Юрась Беленькі і Сяргей Папкоў.

На форуме былі прынятыя некалькі рэзалюцый. У адной зь іх, пра эканамічную сытуацыю ў краіне, гаворыцца, што крызіс выкліканы дзеяньнямі беларускіх уладаў, якія дэманструюць няздатнасьць ўратаваць нацыянальную эканоміку. У рэзалюцыі супраць будаўніцтва АЭС гучыць патрабаваньне адмовіцца ад плянаў будаўніцтва станцыі. Яшчэ адна рэзалюцыя прынятая ў абарону беларускай мовы і нацыянальнай культуры.

Зьезд таксама прыняў зварот да дэмакратычных краінаў. У ім гаворыцца, што беларускі народ доўгі час пазбаўлены дэмакратычных выбараў. КХП-БНФ патрабуе ад міжнароднай супольнасьці не падтрымліваць беларускі рэжым, у тым ліку фінансава.

# Весткі з Вільні

## У Таварыстве беларускай культуры ў Літве

У суботу 30 ліпеня ў Таварыстве беларускай культуры адбылася традыцыйная імпрэза, яе распачаў старшыня Таварыства Хведар Нюнька. У сваёй прамове ён распавёў аб правядзеньні III зьезду беларусаў сьвету, які адбыўся 10 гадоў таму ў ліпені 2001 году, і ўзгадаў гісторыю правядзення папярэдніх. Варта адзначыць, што сп. Хведар быў удзельнікам усіх зьездаў. Ён адзначыў, што толькі Першы зьезд праводзіўся на належным дзяржаўным узроўні. Тады ў Беларусь змаглі прыехаць тыя замежныя беларусы, якія амаль паўстагоддзя не бачылі сваёй этнічнай зямлі. Некаторыя з іх цалавалі зямлю і практычна на вачах ва ўсіх былі слёзы. Але, у 1997 годзе пад час Другога зьезду Бацькаўшчына іх ужо не прыняла так ветліва. Пасля абраньня ў 1994 годзе антыбеларускага прэзідэнта, яны зноў сталі непатрэбнымі і ўжо тады распачаліся спробы падзяліць беларусаў на "чэсных" і "нячэсных".

Сп. Хведар акцэнтаваў увагу на праблеме беларусаў Літвы і на тым, што яны цалкам пакінутыя на волю лёсу. Калі палякам дапамагае іх этнічная бацькаўшчына і выдзяляе ім велізарнейшыя грошы, будуе школы, дамы культуры, то беларусы не маюць дапамогі ніадкуль. Таму і не прыстыжна ў Літве быць беларусам. Калі ў першыя класы польскіх школ у Вільні праводзяцца конкурсы, то ў беларускай школе стаіць праблема, каб набраць хаця б мінімальную колькасць вучняў у першы клас. І такіх прыкладаў шмат. Пакуль у Беларусі не будзе шанавацца беларуская мова і культура, датуль яна будзе не патрэбнай і ў Літве. І як прыклад, мы сёння назіраем практычна поўную спаланізаванасць Віленскага края. Там, дзе яшчэ паўстагоддзя назад размаўлялі пабеларуску, сёння гучыць польская мова. Польская школа і польскі касцёл зрабілі сваю справу. І гэта ў іх вельмі лёгка атрымалася, бо за імі стаяла дзяржава, якая была зацікаўлена ў захаванні польскасці ўсходніх тэрыторый. Беларуская ж дзяржава зацікаўленая выключна ў адным – у дэнацыяналізацыі беларусаў.

Віленскія беларусы ўшанавалі таксама памяць беларускага пісьменьніка Янкі Брыля. Сёлета ў ліпені споўнілася пяць гадоў з дня ягонай сьмерці. За сваю любоў да Беларусі ён быў пакараны: яго сьмерць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі практычна абыйшлі маўчаньнем і таксама пазбавілі яго магчымасьці быць пахаваным у Менску. Янка Брыль належаў да кагорты беларускіх пісьменнікаў, якія стварылі сапраўдную беларускую літаратуру, дзе галоўны герой беларус з яго светабачаньнем, жыцьцёвым вопытам і праблемамі.


Прамаўляе Артур Юдзіцкі

На імпрэзе не абмінулі і становішча ў Беларусі. Палітолагі Кастусь Манкус і Артур Юдзіцкі распавялі пра эканамічны крызіс, пра палітычную сытуацыю.

У ТБК гэтым разам былі і госці. Таварыства наведаў карэспандэнт Радыё Рацыя Зміцер Кармазін, які распавёў аб дзейнасьці гэтага Радыё.

Таксама Таварыства наведалі госьці з Маладэчна, прадстаўнікі дабрачыннага фонда "Северные Афины", якія займаюцца вяртаньнем Агінскага ў айчынную культуру. Як яны лічыць, асоба Агінскага аб'ядноўвае тры народы: беларускі, літоўскі і польскі. Сёння задача - знаходзіць агульныя кропкі ў гэтым пытаньні, выпрацоўваць агульную тактыку пашырэньня і папулярызацыі Агінскіх у сьвеце, сёння той час, калі яго трэба вяртаць і беларусам.

*Алесь Адамковіч*
*Вільня*

---

Просьба Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных аб добраўпарадкаванні тэрыторыі, прылягаючай да Крыжа памяці і мемарыяльнай пліты, устаноўленай на Лукішскай плошчы ў гонар пакараных тут кіраўнікоў паўстання супраць царскага самадзяржаўя ў 1863-1864 гг. З. Серакоўскага і К. Каліноўскага, не засталася не заўважанай гарадскімі ўладамі: спачатку гэтая тэрыторыя была чыста прыбрана, а пасля – 1-га ліпеня – вакол пліты пасаджаны кветкі.

Шчыры дзякуй!

Паколькі горад ужо не першы год жыве чаканнем рэканструкцыі плошчы, разлічваць на большае гэтым разам не даводзілася.

Застаецца, аднак, незразумелым ці застанецца месца згаданаму мемарыялу пасля рэканструкцыі плошчы…

*Старшыня Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных*
*Валянцін Стэх*

## Ушанаваньне памяці Валеры Місюка

Віленскае беларускае таварыства палітычных вязняў і ссыльных передало бацькам Валерыя Місюка (напярэдадні трэцяй гадавіны са дня яго трагічнай смерці) сабраныя таварыствам грошы на частковае пагашэнне выдаткаў па ўстаноўцы помніка на магіле іх сына.

Валеры Місюк нарадзіўся 19 ліпеня 1977 года ў Грыгішках. У 1995 годзе скончыў Грыгішскую сярэднюю школу, пасля – Віленскі тэхнічны ўніверсітэт імя Гедыміна. Да беларускай грамадскай дзейнасці далучыўся пад уплывам Міколы Рулінскага. Быў актыўным сябрам Таварыства беларускай культуры ў Літве, увахозіў у склад Рады, з'яўляўся наместнікам старшыні таварыства.

Загінуў у дзень свайго нараджэння ў Беларусі, у самым росквіце сваіх фізічных і духоўных сіл. Там жа і пахаваны. Гэтым летам на яго магіле мае быць пастаўлены помнік.

*Старшыня Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных*
*Валянцін Стэх*

# Весткі з Севастопалю (Украіна)

24 жніўня 2011 у Севастопалі каля помніка Тарасу Шаўчэнку на сьвяткаваньнях, прысьвечаных 20-й гадавіне незалежнасьці Украіны, лунаў беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Такім чынам Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" выказала падтрымку украінскай дзяржаўнасьці.

На наступны дзень – 25 жніўня бел-чырвона белы сьцяг быў узьняты каля магілы Максіма Багдановіча ў Ялце, куды для працягу сьвята прыехалі севастопальскія беларусы. Там прагучала Багдановічава "Пагоня" і прысутныя на завяршэньне прасьпявалі "Магутны Божа".

Потым у сядзібе Таварыства ў Севастопалі адбылася выстава кнігаў, перыядычных выданьняў, прысьвечаных падзеям 20-ці гадовай даўніны, калі развальваўся Савецкі Саюз і на ягоных руінах паўставалі новыя незалежныя дзяржавы. У выступе старшыні Таварыства В. Барташа гаварылася пра тое, як была адноўленая у той час незалежнасьць Беларусі. Былі зачытаны ўспаміны Зянона Пазьняка і Алега Трусава - дэпутатаў апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі, якой удалося дабіцца прыняцьця Дэкларацыі аб незалежнасьці Беларусі і пасьля наданьня ёй статуса канстытуцыйнага закону.

А. Серафім, сябра суполкі, цяпер – адзін з двух япіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, правёў малебен за беларускі народ, а потым расказаў пра сваё наведаньне Амэрыкі і пра ягонае высьвячэньне ў Нью-Ёрку у сан епіскапа.

Прысутныя ўзгадалі і пра сумныя падзеі на Бацькаўшчыне. Найперш, іх засмуціла навіна пра арышт Алеся Бяляцкага, з якім Таварыства зьвязвала актыўнае супрацоўніцтва. Пачалося яно ў той час, калі Алесь Бяляцкі працаваў дырэктарам Музея Максіма Багдановіча ў Менску і з яголым імем зьвязаны першыя крокі станаўленьня Севастопальскага таварыства беларусаў, якое носіць імя паэта. Севастопальскія беларусы выказвалі словы салідарнасьці і падтрымкі Алеся Бяляцкага і іншых палітзьняволеных у Беларусі і патрабавалі іх неадкладнага вызваленьня.

*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча"Пагоня"*
*Валеры Барташ*

# Мікалай Шыла - “дзядзька” беларускага адраджэньня

*Беларусь, мая старонка -*
*Куток беднаты,*
*Жыве Шыла, Грыб, Мамонька -*
*Будзеш жыць і Ты!*

*(аўтар невядомы)*

У дзяцінстве я вельмі любіў разглядаць стары альбом з фотаздымкамі, я гэта і цяпер люблю. Колькі там цікавага - знаёмыя і незнаёмыя людзі, маладыя дзед і баба, зусім малыя маці й бацька, жаўнеры польскага войска з шаблямі, і шмат чаго іншага. Але, адзін з фотаздымкаў асабліва прыцягваў маю ўвагу тым, што сярод звычайных, пераважна вясковых людзей, чалавек на гэтай старой, пажоўклай картцы вылучаўся нейкай надзвычайнай інтэлігентнасьцю ў сваіх акулярах-пенснэ і строі з гальштукам. На мае пытаньні, відаць, каб хутчэй адчапіцца, маці адказвала коратка: 'Тэта мой дзядзька - брат бабы Дашы", гаварыла, што быццам бы ён быў нейкім "рэвалюцыянерам" і больш нічога. Пазьней я даведаўся пра яго шмат цікавага і што звалі гэтага "рэвалюцыянера", пра якога ў савецкія часы нават сваякі баяліся гаварыць, Мікалай Шыла.

Нарадзіўся Мікалай Шыла ў вёсцы Заберазь, (цяпер іўеўскі раён, Гарадзенскай вобласьці) у 1888-м годзе. Пасьля заканчэньня Бакштанскага народнага вучылішча ён пехатой дабіраецца ў Маладзечна, дзе паступае ў настаўніцкую семінарыю і далучаецца да беларускага нацыянальнага руху. У часе вучобы ўдзельнічае ў нелегальным сходзе вучняў - беларусаў настаўніцкіх семінарый. А калі ў 1902-м годзе ствараецца Беларуская Сацыялістычная Грамада, Шыла ўваходзіць ў склад кіруючых ворганаў гэтай першай беларускай палітычнай партыі.

У 1909-м годзе Мікалай Шыла пераязджае ў Вільню, уладкоўваецца на працу ў прыватную майстэрню і актыўна супрацоўнічае з рэдакцыяй газэты "Наша Ніва", піша артыкулы. Там жа ў рэдакцыі газэты Мікола сустрэўся з Янкам Купалам і апісаў пазьней гэтае знаёмства ва ўспамінах.

Потым некалькі гадоў Шыла вучыўся ў Пецярбургу, дзе працягваў удзельнічаць у беларускім грамадскім і культурным жыцьці, зьяўляўся сябрам "Пецярбургскага таварыства студэнтаў - беларусаў". Быў дэлегатам на адным са зьездаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, цесна кантактаваў з Цішкам Гартным, Вацлавам Ластоўскім і іншымі выбітнымі беларускімі дзеячамі. Не раз за актыўную палітычную і адраджэнскую дзейнасьць М. Шыла перасьледаваўся царскімі ўладамі.

Калі ў 1917-ым годзе ў Менску зьбіраецца Першы Ўсебеларускі Кангрэс, які становіцца на плятформу дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, Мікалай Шыла ўдзельнічае ў яго працы. Пасьля таго, як абраная Рада Кангрэсу, рэарганізаваная пазьней у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, 25-га сакавіка 1918 году ў Менску абвесьціла дзяржаўную незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, Шыла становіцца сябрам Рады БНР.

Але, ня толькі палітычнай дзейнасьцю займаецца малады патрыёт. У 1909 годзе ў Вільні, заснаваўся музычна-драматычны гурток пад кіраўніцтвам Алеся Бурбіса, Мікола ўдзельнічаў ў яго працы. У 1911 годзе Шыла ўжо актор тэатральнай трупы Ігната Буйніцкага і разам з Алаізай Пашкевіч (Цёткай), таксама акторкай трупы, вандруе па гарадох і мястэчках Беларусі. Актор Абрамовіч успамінаў, што Шыла быў ня толькі таленавітым акторам, але і добра танцаваў. Дарэчы, гэтую інфармацыю паведаміў мне Зянон Пазьнак, які ў свой час напісаў дысэртацыю па гісторыі беларускага тэатру.

Цяжка знайсьці сфэру грамадзка-палітычнага, ці культурнага жыцьця, дзе б ня ўдзельнічаў гарачы патрыёт з Лідчыны. Нездарма ў прыведзеных у эпіграфе радках называецца сярод іншых дзеячоў і Шыла. Гэтыя радкі шмат каму ведамыя. Калі некага са старэйшага пакаленьня спытаеш пра Міколу Шылу, то ў першую чаргу згадваюць гэты верш.

Успамінае Антон Шукелойць: "Шыла належаў да групы эсэраў, якая ў Першую Сусьветную вайну, у часы змаганьня за незалежнасьць, адыгрывала важную ролю ў беларускім палітычным жыцьці. Усе паўстаньні рэвалюцыйнага характару, усе незалежніцкія рухі былі сарганізаваныя эсэрамі, у тым ліку і Слуцкае паўстаньне. Я таксама належаў да гэтай групы і мы запрашалі на свае сходы дзядзьку Шылу, мы яго так называлі, як вэтэрана. Ва ўсіх рухах эсэраўскіх ён быў, і ня толькі палітычных, але й культурных. Працаваў у нейкай беларускай газэце і супрацоўнічаў пераважна з Радаславам Астроўскім, у той час дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. Другім ягоным заняткам быў продаж старых, антыкварных кнігаў”.

У 1918 - 1919 г.г. Мікопа працуе настаўнікам Будслаўскай гімназыі. З 1921 году ізноў жыве ў Вільні і працягвае актыўную дзейнасьць у беларускім руху, супрацоўнічае з газэтай "Змаганьне". Паколькі польскія ўлады варожа ставіліся да беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, то і Мікола Шыла за сваю дзейнасьць трапляе ў вядомую Лукішскую турму. Там ён пазнаёміўся з многімі вядомымі беларускімі дзеячамі, сядзеў у адной камэры з Алесем Гаруном (Прушынскім) і напісаў пазьней пра яго цікавы ўспамін.

У 1939 м годзе, ласьля таго як Заходняя Беларусь была далучана да БССР, Мікола Шыла, ужо пад бальшавіцкай уладай працуе ў газэце "Віленская праўда".
Часта яму тады даводзілася ў канцы артыкулаў пісаць: "Няхай жыве таварыш Сталін!" Ведамы такі жарт Шылы: навошта, маўляў, кожны раз набіраць гэты тэкст, трэба адліць пячатку і штампаваць. Цяпер мы ведаем, чым маглі скончыцца гэткія жарты.

З пачаткам нямецкай акупацыі Шыла вяртаецца на Лідчыну, дзе зарганізоўвае беларускае школьніцтва, а сам становіцца школьным інспэктарам. У 1944 годзе прымае ўдзел у Другім Усебеларускім Кангрэсе. У сваёй брашуры пад загалоўкам " А што далей?" (Браўншвэйг, 1948 ) Мікалай Шыла так піша аб тых падзеях: "І не дзеля страху перад немцамі, а дзеля любові і адданасьці Беларусі сабраліся ўдзельнікі Кангрэсу ў Менску. А прышлі яны нават адтуль, дзе фактычна ўлада была ў партызанскіх руках, а ішлі яны праз шляхі, адрэзаныя партызанамі. Іх клікала Беларусь і Беларуская Справа."

Калі на Менск наступалі савецкія войскі і былі цяжкасьці з выездам з гораду, то Радаслаў Астроўскі - Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, сказаў, што Шыла паедзе туды, дзе ён паедзе. Па заканчэньні вайны Шыла разам з Астроўскім трапляе ў Нямеччыну, у Ангельскую зону, дзе супрацоўнічае з часапісам "Шляхам жыцьця".

Доктар Вітаўт Кіпель распавядае: "Я сустракаўся зь Мікалаем Шылам толькі адзін раз у 1946-м годзе ў Нямеччыне, на скаўцкім зьезьдзе. Тады Шыла выступаў перад намі, пры вогнішчы, з прывітаньнямі ад старэйшага пакаленьня і пажаданьнямі для моладзі. Але, я ведаю ад іншых людзей, у прыватнасьці, ад доктара Тумаша, што Мікола Шыла быў вельмі ўплывовым чалавекам і людзі навокал яго з ім заўсёды лічыліся, асабліва, калі трэба было што-небудзь надрукаваць. Калі так можна сказаць, Шыла меў моцны ўплыў на інтэлектуальную атмасфэру ў беларускім адраджэнскім руху."

У падцьверджаньне гэтых радкоў, у кніжцы "Другі Усебеларускі Кангрэс", выдадзенай у Мюнхене ў 1954-м годзе, мы сустракаем шматлікія цытаты
Міколы Шылы, з дапамогаю якіх аўтары спасылаюцца на яго, як на вядомы аўтарытэт. І калі, з увагі на ўсё вышэй сказанае, Міколу Шылу ўсё ж не атрымаецца назваць "бацькам" Беларускага Адраджэньня, як братоў Луцкевічаў, то "дзядзькам", напэўна, можна.

Як склаўся далейшы лёс Міколы Шылы? Пра гэта ёсьць скупыя зьвесткі. У артыкуле І. Пракопчыка "Жыцьцё ў імя Радзімы", надрукаваным у Іўеўскай раённай газэце, пасьля кароткага апісаньня жыцьцёвага шляху Шылы, чытаем: "...У канцы 1948 году родныя атрымалі ліст з замежным штэмпелем на канвэрце. Пісала жонка Мікалая, паведамляючы, што ў апошні час ён жыў у германскім горадзе Браўншвэйг. Працаваў на культурна-асьветніцкай ніве. ...Жанчына са смуткам паведамляла, што ў красавіку 1948 году Міколы Шылы ня стала. Паміраючы, ён з вялікай тугою ўспамінаў Радзіму, родны дом, сваіх блізкіх, сяброў.
...Родныя яшчэ не супакоіліся пасьля горкай весткі, як да сястры Дар'і завіталі супрацоўнікі КДБ і распытвалі пра брата."
(Зразумела, чаму маці нічога не гаварыла мне пра свайго дзядзьку.)

Трэба адзначыць, што на радзіме М. Шылы, у школьным музэі, створана невялічкая экспазыцыя ведамага земляка. Але, ні гэтая экспазыцыя, ні скупыя артыкулы ў дзяржаўных беларускіх выданьнях не раскрываюць, а часам і наўмысна хаваюць, усю праўду пра дзейнасьць адданага змагара, сапраўднага патрыёта Беларусі. Бо, калі казаць праўду пра Шылу, то патрэбна пісаць і пра Раду БНР, пра іншыя падзеі Беларускага Адраджэньня, пра Другі Усебеларускі Кангрэс і праўдзівую гісторыю вайны , што ва ўмовах сучаснай Беларусі немагчыма.

А такіх людзей, як Мікола Шыла ў гісторыі Беларусі нямала. Трэба толькі пра іх не забываць, гаварыць, пісаць - даносіць інфармацыю пра іх да шырокай грамадзкасьці. Таму, пакуль будзе жыць Шыла, гэта значыць праўда пра яго і пра тыя падзеяі Беларускага Адраджэньня, у якіх ён удзельнічаў, пакуль будзе жыць вера ў тыя ідэалы, у якія ён верыў, будзеш жыць і Ты – Беларусь!

*Сяргей Пятровіч*
*Нью-Ёрк*

## Сьв. пам. Міхась Лужынскі
### (6 студзеня 1926 – 17 ліпеня 2011)



Рада Беларускай Народнай Рэспублікі Выказвае глыбокае спачуваньне сям'і і беларускай грамадзкасьці ў Аўстраліі, часткай якой ён быў на працягу 60 гадоў.
У асобе Міхася Лужынскага мы страцілі дарагога сябра, вялікага Беларуса, нястомнага працаўніка на карысьць свайго народу, шматгадовага Раднага БНР.
Вечная памяць.

*Старшыня Рады БНР*
*Івонка Сурвілла*

Шчырыя спачуваньні сям'і Міхася Лужынскага і беларусам Аўстраліі выказваюць -

***Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня***

***Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва***

***Цэнтр беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе***



**У Беларускім клюбе ў Сыднэі, Міхась Лужынскі - за сталом справа**

# У памяць пра сябра

*Сумная вестка нечакана прыйшла з Аўстраліі – на 86 годзе жыцця памёр Міхась Лужынскі, адзін з лідэраў беларускай грамады ў гэтай краіне. Шмат гадоў сп. Лужынскі ўзначальваў Беларускі грамадзка-культурны клюб у Сыднэі, але ягоная дзейнась на беларускай ніве была нашмат больш шырокаю. Міхась Лужынскі – гэта адна са знакавых асобаў ў паваеннай хвалі беларускай эміграцыі, яго ведалі ўсюды, дзе асталяваліся ў розных краінах па вайне беларускія выгнанцы. І таму, што некалі ў маладосьці працавалі разам у беларускім руху пад акупацыяй, і таму, што разам жылі ў лягерах ДП у Нямеччыне, і таму, што сп. Міхась пасьля пабываў у гасьцях амаль ва ўсіх беларускіх асяродках на чужыне, цікавіўся, хацеў ведаць, як жывецца былым сябрам і паплечнікам.*

Міхась Лужынскі нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Кабылкі Палачанскай валасці Маладзечанскага павету Віленскага ваяводства (цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.). Бацька працаваў сакратаром валасьці. У 1935 годзе сям'я пераехала ў Гарадок, потым ў 1939 годзе ў Палачаны. У 1941 годзе Міхась Лужынскі скончыў сямігодку ў Хажове. А ў 1942 годзе пайшоў у гандлёвую школу ў Маладзечне, дырэктарам якой быў Барыс Кіт. Правучыўся там два гады. Быў сябрам СБМ.

Пасля закрыцьця гандлёвай школы запісаўся добраахвотнікам у школу Люфтвафэ і разам з іншымі 46 хлопцамі быў вывезены ў Польшчу, а потым — у Нямеччыну. У 1945 годзе апынуўся ў беларускім лягеры Ватэнштэт (Нямеччына), дзе ў 1946-м пазнаёміўся з будучай жонкай Надзеяй. Ажаніўся ў канцы 1948-га, а ў канцы 1949-га выехалі з жонкаю ў Аўстралію. Сям'я пасялілася ў Сіднеі. Спачатку Міхась працаваў электраманцёрам. Потым, скончыўшы інжынэрныя курсы, пайшоў па службовай лесвіцы ўгару, быў інспектарам пры пабудове электрычных ліній. У 1979-м пачаў невялікі і пасьпяховы бізнэс — займаўся пакупкай і продажам драўніны.З жонкаю вырасьцілі траіх дзяцей – сына Вячаслава і дзвюх дачок – Нэлю і Гэлю.

Ад самага пачатку актыўна ўдзельнічаў у беларускім грамадзкім жыцьці Аўстраліі, быў сябрам Беларускага Аб'яднання ў Аўстраліі, узначальваў Беларускае Аб'еднанне ў Новай Паўднёвай Валіі (1951—1953 гг.), рэдагаваў часопіс «Новае жыцьцё», быў старшынёй Беларускага грамадска-культурнага клубу. Доўгія гады з'яўляўся адказным сябрам Рады БНР.

На працягу 17 гадоў голас Міхася Лужынскага гучаў на аўстралійскіх радыёхвалях аж да 2003 года, калі ўлады Аўстраліі закрылі беларускія радыёперадачы.

Апошнім часам Міхась Лужынскі ўлажыў шмат працы, каб фінансава падтрымаць Цэнтр беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе, ён добра разумеў важнасьць гэтага навуковага асяродка ў замежжы. Ягоная сям'я нават просіць заместа кветак на магілу сп. Міхася даваць ахвяраваньні на гэты Цэнтр.

Да апошніх дзён Міхась Лужынскі працаваў дзеля Беларусі. Яшчэ 3 ліпеня сёлета прадстаўляў беларускую грамадзкасьць на украінскім Сьвяце Герояў ў Сыднэі і там прамаўляў.

Але, найбольш душа сп. Міхася цягнулася на Бацькаўшчыну, якая ляжала далёка за акіянамі, амаль суткі лёту сучасным авіялайнерам. Сымбалічнаю ў гэтым памкненьні сталася і ягоная сьмерць, як я лічу, па дарозе на Радзіму. Бо памёр ён усё ж не ў далёкай Аўстраліі, а ў нашмат бліжэйшым да Беларусі расейскім Санкт Пецярбургу, куды прыехаў з турыстычнаю групаю.

Сёлета вясною сп. Міхась патэлефанаваў мне з Сыднэю і выказаў сваё патаемнае жаданьне хоць яшчэ раз пабываць у Беларусі пакуль здароўе дазваляе на доўгую дарогу. Але, яго турбавала, ці гэта магчыма, ці бясьпечна, ці не арыштуюць яго там, як хапаюць зараз многіх на вуліцы бяз дайпрычыны і цягнуць у пастарунак бязьвінных людзей. Таму і выбраў, відаць, гэтае турыстычнае падарожжа ў Расею, каб прыгледзецца, як пад'ехаць адтуль на Радзіму. Але, апошнія падзеі ў Менску, расправы над людзьмі, выглядае, моцна разхвалявалі ягонае збалелае сэрца, бо пазбаўлялі надзеі пабачыць Радзіму, як разумеў, ці не ў апошні раз. І сэрца не вытрымала і адышоў у вечнасьць сярод чужых, зусім не там, дзе хацеў бы.

Сьмерць сп. Міхася балюча ўдарыла і па маім сэрцы. Можа трэба было яго адгаворваць? Мы былі знаёмыя ад 1993 году, калі ў Менску адбываўся Першы зьезд беларусаў сьвету і сп. Міхась з жонкаю Надзяю і іншымі аўстралійскімі беларусамі былі прысутныя ў оперным тэатры. Ягоная прамова на зьездзе была эмацыянальнаю, прасякнутаю бязьмежнаю любоўю да Бацькаўшчыны.

А потым ў 1996 годзе я была ў Аўстраліі, наведала Беларускі клюб ў Сыднэі, пазнаёмілася там з беларускім жыцьцём, з людзьмі. Сп. Міхась паказаў нам аўстралійскія краявіды, калі мы ездзілі на ягонае лецішча, дзе ў той час жыла сп. Надзя, дакладней ляжала прыкаваная хваробаю да ложка. Хутка жонкі не стала і сп. Міхась так і не мог змірыцца з гэтай незваротнаю стратаю сяброўкі жыцьця. З тае пары, каб заглушыць сум, шмат ездзіў, казаў, што пяць разоў аб'ехаў сьвет у сваіх падарожжах.

У 2004 годзе мы сустрэліся ўжо ў Празе, дзе я на той час жыла. Сп. Міхась быў цёпла прыняты ў Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, а потым і ў Беларускай пражскай суполцы "Скарына". Сяброўскія сустрэчы надавалі яму аптымізму, напаўнялі жыцьцё новымі ўражаньнямі і ўпэўненасьцю, што новыя пакаленьні трымаюць у сьвеце беларускую справу.

Калі мне давялося пераняць справу выданьня нашай газэты, сп. Міхась пасяброўску падтрымаў мяне і адным з першых выслаў для газэты значную фінансавую падтрымку, якую сабраў з уласных сродкаў і ад беларусаў у Сыднэі. Мы будзем памятаць пра гэта і разам з усімі, хто ведаў сп. Лужынскага, глыбока смуткуем і выказваем ад Рэдакцыі нашы спачуваньні дзецям сп. Міхася - Вячаславу, Нэлі і Гэлі.

Вечная памяць слаўнаму чалавеку, шчыраму беларусу і адданаму патрыёту нашай зямлі!

*Ганна Сурмач*



**Сыднэй, 2006 год: (злева направа) Сяргей Навумчык, Міхась Лужынскі, Івонка Сурвілла (крайняя справа) сярод сыднэйскіх беларусаў**

## Сьв. памяці Віталь Скалабан

**(5 жніўня 1947 - 20 жніўня 2011)**

На 65-м годзе жыцьця 20 жніўня памёр гісторык, бібліёграф і архівіст Віталь Уладзімеравіч Скалабан.

Віталь Скалабан нарадзіўся 5 жніўня 1947 году ў вёсцы Шылавічы Слонімскага раёну.

У 1970 скончыў Ленінградзкі ўнівэрсытэт. Кандыдат гістарычных навук. З 1972 працаваў у выдавецтве «Беларуская Энцыкляпэдыя» рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі. У 1995—2000 намесьнік дырэктара, дарадца Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту дакумэнтазнаўства і архіўнай справы. З 2000 намесьнік дырэктара Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны, з 2002 навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь. Скалабан быў унікальным знаўцам гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Ён стаяў ля вытокаў стварэньня найлепшых энцыкляпэдый на беларускай мове, у тым ліку 6-тамовай «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі». Аўтар дзясяткаў публікацый у газэтах і часопісах, пісаў пра постаці і эпізоды беларускай гісторыі.



# Гісторыя Беларусі за 5 хвілін

***Выйшаў першы прафесійна зроблены анімацыйны фільм, прысьвечаны гісторыі Беларусі ад пачатку і да нашых дзён. Гэта частка сумеснага праекту “Будзьма TUT”, распрацаванага вядомай культурнай кампаніяй “Будзьма” і інтэрнэт- парталам TUT.BY.***

***Праект ставіць мэтаю зацікавіць беларускай гісторыяй і культураю шырокія колы грамадзтва.***

***Падаем поўны тэкст, які напісаў Лявон Вольскі і ажыўляе ў фільме Аляксандр Памідораў.***

Не было раней нічога, а цяпер усяго многа.
За гэта мы мусім падзякаваць Богу,
Ён ствараў наш свет у жанры фрыстайлу,
Прамовіў “Будзьма!”, і Беларусь паўстала.
Іхтыязаўры і іншыя цмокі…
Мы напачатку ў акіяне моклі,
А потым пакінулі водныя нетры
І займелі мы назву “неўры”.
Неўры здавён, ад першых вякоў
Пераўтвараліся ў ваўкоў —
Такая вось звычка была ў народа…
Жыцень, Пярун, Дажджбог і Кола Сварога —
У паганскіх багоў продкі нашыя верылі,
Але ўжо хрысціянства грукае ў дзверы ім.

Будзьма ведаць свой род, шалёны народ, беларускі народ!

Год 862 ад нараджэння Хрыстова —
Пра Полацак першыя летапісныя словы.
Ў тым Полацку збудуюць сабор Святой Сафіі
(У свеце былі толькі тры такія).
Тамтэйшы князь Усяслаў Чарадзей
Быў чоткі персанаж, але слухай далей!
У Полацку жыла Еўфрасіння Святая,
Памяць пра яе ў стагоддзях не тае.
Для яе зрабілі знакаміты крыж
(Не проста супер, а супер-звыш),
Але ў апошнюю вайну артэфакт прапаў.
Такі вось, прабачце, мясцовы грааль.

Ідзем далей, не марудзім доўга.
Час надышоў князя Міндоўга.
І тут мы зацяміць мусім з табой —
Тады Беларусь называлі Літвой,
А дакладней — Вялікім Княствам Літоўскім
З гербам “Пагоня” і суперскім войскам.
Пакрочым далей сваім шляхам пыльным.
Князь Гедымін засноўвае Вільню.
Сон легендарны — ваўчара ў латах…
На Вікіпедыі пра гэта багата.

Будзьма ведаць свой род, шалёны народ, беларускі народ!

Год 1362-гі.
Шчэрацца дзіды. Лунаюць сцягі.
Нашыя войскі ля Сіняй Вады
Разбілі трох ханаў Залатое Арды,
І Княства Літоўскае раптам — о-па! —
Зрабілася буйнейшай дзяржавай Еўропы.

Давайце далей разгортваць світак.
У Княстве Літоўскім княжыць Вітаўт.
Тэўтонскі Ордэн нам пагражае.
Пад Грунвальдам бітва ўсё вырашае.
Вітаўт з Ягайлам, польскім каралём,
Крыжакоў адправілі ў металалом.

Францішак Скарына — канкрэтны мажор.
Вучыўся не ў Полацку, а за мяжой.
І з гэтай навукай ён добра парадзіў —
Беларускую Біблію выдаў у Празе.
Вайскоўцы былі ў форме не горшай —
Паклалі маскоўскае войска пад Оршай
У 1514-м годзе,
Але годзе пра гэта, наперад мы пойдзем!
Хвілінны прыпынак — зараз і тут
Зацверджаны Трэці Літоўскі статут,
А пад Кіргхольмам разбілі шведаў,
Відаць, ты пра гэта раней не ведаў.

Будзьма ведаць свой род!

У Магілёве ў бітве апантанай
Сем тысячаў палегла акупантаў.
Якіх акупантаў? Ну, гэтых… З Усходу —
Прадстаўнікоў братняга расейскага народу.
Іх называлі яшчэ “маскавіты”,

А мы ўжо ў Рэчы жылі Паспалітай —
Беларуска-літоўска-польскай дзяржаве —
І чамусьці суседзяў усіх раздражнялі.
Тры падзелы Рэчы Паспалітай —
Вось так — узялі нас і падзялілі.
Найбольшую частку з’ела Расея…
Сярод шляхты незадаволенасць спее.
На сцэне з’явіўся Тадэвуш Касцюшка.
Запомніць імя гэта трэба. Таму што
Тадэвуш канкрэтным быў рэвалюцыянерам —
У свабоду, роўнасць, братэрства верыў,
Змагаўся за гэта нават у Штатах,
Але рускі царызм яго кінуў за краты.

Будзьма ведаць свой род, шалёны народ, беларускі народ!

Падчас напалеонаўскага землятрусу
З беларусамі біліся беларусы,
А ў 1863-м
Паўстанне ізноў пажарышчам свеціць.
Кастусь Каліноўскі, сын Беларусі
Ў роспачы быў, у гаркоце, у скрусе,
Падняў касінераў, смела біўся ў палях,
Але ў пятлі на Лукішках скончыў свой шлях.

Свет на мяжы XX стагоддзя.
Трэба падымаць культуру ў народзе!
Багушэвіч, Багдановіч, Купала і Колас,
Ластоўскі, Луцкевіч… Багата было вас!
Дзясяткі й дзясяткі выбітных імёнаў…
Але ўжо рэвалюцыя палае чырвоным.

Ну вось. У рэвалюцыйных жахах
З’яўляецца новая дзяржава.
Завецца прыгожа яна: БНР.
Яе ўтварэнне святкуем і цяпер.
Але раптам аднекуль — з дзіркі ад бубліка —
З’яўляецца іншая на табе рэспубліка.
Завецца ўжо не рамантычна яна —
Савецкая сацыялістычная.
20-я гады. Векапомны час.
Беларусізацыя пануе ў нас.
Пісьменнікі пішуць выдатныя творы,
Мастакі ў Віцебску заўсёды ў гуморы…
І гэтак было, пакуль не прыйшоў
Год 37-мы, крывавае шоу.
Але то шчэ была апраметная.
І вось пекла — Другая сусветная.
Былі акупанты, былі партызаны,
Краіну ізноў на шматкі разгрызалі…
Ізноў беларусы з абодвух бакоў…
Ліецца кроў родных братоў.

Канец вайне! Здавай аўтамат!
І вось ужо ў небе ляціць касманаўт.
Машэраў, прамову сваю гавары!
Спявайце пра Яся грамчэй, “Песняры”!
Барыс Кіт, рабі вынаходкі ў НАСА,
А мы застанемся з краінай сам-насам.
Рэспубліка Беларусь — яе назва цяпер.
Прыняты сцяг, зацверджаны герб.
Спяваюцца песні, чытаюцца вершы…
Год 1991-ы…

Будзьма
Ведаць свой род!
Шалёны народ, беларускі народ…

На гэтым шматкроп’е. У рукі вам сцяг
Хай кожны напіша ўласны працяг…

Будзьма
Ведаць свой род!
Шалёны народ, беларускі народ…
Будзьма
Ведаць свой род!
Шалёны народ, шалёны народ…

# BELARUS ART

## Як зрабіць купальскі вянок?

***Свае парады дае вядучая старонкі Art –Belarus мастачка Ксеня Капытка.***

*Здаецца, яшчэ зусім нядаўна мы адзначалі наша старажытнае сьвята - Купальле. Гэта сьвята каханьня. Маладыя хлопцы і дзяўчаты ўсю ноч вадзілі карагоды з песьнямі, скакалі праз вогнішча, шукалі папараць кветку.*

*На працягу стагоддзяў, згодна са звычаем, дзяўчаты плялі вянкі, і, пускаючы іх на ваду, загадвалі жаданьні, каб сустрэць сапраўднае каханьне і мець шчаслівы лёс.*

*У наш час камп'ютэраў і тэхналёгій 21 стагоддзя, мы забыліся пра большасьць народных звычаяў і традыцый. Мы забыліся пра сутнасьць нашых галоўных сьвят... А што ўжо казаць пра вянок. Між тым, вянок меў вялікае значэньне ў абрадавай культуры беларусаў і выкарыстоўваўся ня толькі на Купальле. Вянок аберагаў ад нячыстай сілы, хваробаў і чарадзейства. Ён быў адным з асноўных атрыбутаў вясельля і ўвасабляў дзявоцкасьць, прадукавальнасць, абарону і шлюб. Плялі вянкі на Сёмуху. Надзявалі карове на рогі, каб абараніць ад ведзьмакоў. На Дажынкі плялі іх з жыта, і яны былі ўвасабленьнем новага ўраджаю, плёну і багацьця. Вянок захоўваў і старажытны сэнс ушанаваньня герояў, сымбаль славы.*

*Дык чаму б нам не аднавіць уменьне плясьці прыгожыя вянкі? Зрабіце свой фотаздымак з прыгожым вянком на галаве і, магчыма, гэта будзе найлепшае фота ў вашым жыцьці. А як хораша выглядаюць дзеткі з вяночкамі! Павесьце жытні вянок у офісе свайго бізнэса ці над працоўным сталом, і ён, магчыма, прынясе вам новыя выгодныя прапановы, больш грошай і павышэньне на службе. У Купальскую ноч зрабіце вянок з сапраўднага рамонку, зьверабою і мяты, і яго водар нагадае вам цёплае лета, калі за вакном будзе мясьці завіруха. І тады, укіньце некульки кветак з яго ў кубак з гарачаю гарбатаю, і адбудзецца цуд...*

### Спосаб стварэньня вянка

#1. Трэба браць кветкі з доўгімі сьцяблінамі. Чым больш розных кветак, тым цікавейшы вянок.



#2. Пачніце ваш вянок, узяўшы дзьве кветкі, скрыжаваўшы.



#3. Сагніце сьцяблiну другой кветкі вакол першай так, як паказана на малюнку.



#4. Урэшце абвійце другую кветку вакол першай адзін раз.



#5. Прыкладывайце кожную наступную кветку да апошняй, а сьцяблiну цесна абвівайце адзін раз вакол усіх сьцяблін, і астатак кветкі ўкладывайце ўздоўж іншых. І так далей, пакуль не зробіце дастатковай даўжыні "пляцёнку" з кветак. Памятайце, што ў працэсе трэба прымяраць ваш вянок, каб зрабіць яго правільнага памеру.





#6. Вось так выглядае вянок у працэсе.



#7. Калі "плецёнка" ужо дастаткoвай даўжыні, то складзіце яе ў вянок і сьцяблiну апошняй кветкі перапляціце з першымі кветкамі. Каб мацней трымалася, можна ўзяць доўгую, моцную сьцяблінку травы і яшчэ некулькі разоў пераматаць месца злучэньня. Калі ж маеце прыгожую стужку, то два канца вянка можна звязаць ёю.





# За галаву дысыдэнта – мільённыя інвэстыцыі?

Артыкул з такім назовам зьявіўся ў літоўскай газэце Lietuvos žinos. Аўтар Раса Калінаўскайце дасьледуе тэму наяўнасьці ў справе Алеся Бяляцкага прыватных інтарэсаў некаторых літоўскіх юрыстаў і бізнэсоўцаў.

Пасьля міжнароднага скандалу вакол здрады ў дачыненьні да беларускага дысыдэнта, здадзенага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі , літоўскія ўлады нястомна спрабуць давесьці, што гэта толькі выпадковае непаразуменьне, якое ўзьнікла з-за недастатковай каардынацыі і сыстэмных недахопаў, якія, паводле прэм'ера Андруса Кубілюса, існавалі ўжо дванаццаць гадоў. Ці гэта сапраўды так? -- задаецца пытаньнем Lietuvos žinos.

Рэдакцыя LŽ мае доказы, што здраду маглі прадвызначыць толькі што падпісаныя прыбытковыя дамовы, што за кулісамі гэтых новых зьдзелак і ганебнай здрады мільгаюць тыя самыя постаці. Так што гэта ня проста здрада, а здрада за грошы, - піша аўтарка літоўскай газэты.

Сямейны бізнэс

За некалькі дзён да прыняцьця Міністэрствам юстыцыі (МЮ) рашэньня аб выдачы рэжыму Аляксандра Лукашэнкі банкаўскіх зьвестак беларускіх дысыдэнтаў Алеся Бяляцкага і Валянціна Стэфановіча, улады РБ блаславілі надзвычай буйную інвэстыцыю літоўскіх бізнэсоўцаў у Магілёўскай вобласьці, -- заўважае Раса Калінаўскайце.

Пры падпісаньні дамовы аб гэтай інвэстыцыі на суму 77 мільёнаў эўра літоўскіх бізнэсоўцаў кансультавала беларускае бюро адвакацкай канторы "Bernotas & Dominas Glimstedt", якое курыруе партнэр гэтай канторы Эгідзіюс Бярнатас.

Амаль адразу пасьля падпісаньня дамовы жонка Э.Бярнатаса, былая дырэктарка Дэпартамэнту міжнароднага права МЮ Аўшра Бярнацене прыняла рашэньне задаволіць просьбу беларускага боку аб прававой дапамозе ў справе апазыцыйных дзеячоў.

Запаліць зялёнае сьвятло для літоўскага бізнэс-праекту прадпісала ўлада РБ.

Што гэта - супадзеньне або цынічны гандаль, пры якім зьвесткі аб беларускіх дысыдэнтах былі здадзеныя ў абмен на дазвол літоўскім бізнэсоўцам пачаць рэалізацыю праекту, які быў заплянаваны яшчэ паўтара года таму, але доўга чакаў блаславеньня афіцыйнага Менску? -- задаецца пытаньнем Раса Калінаўскайце.

Абавязаньне найвышэйшых уладаў

28 лютага 2011 году ў выканкаме Магілёўскай вобласьці ЗАТ "Vakarų medienos grupė" ("Заходняя група драўніны"), у асобе генэральнага дырэктара Віктара Адамайціса і прадпрыемства "Mebelain" канцэрну SBA у асобе дырэктара Аляксандра Гардзейчыка, падпісалі з старшынём магілёўскага аблвыканкаму Пятром Руднікам дамову аб будаўніцтве заводаў у Магілёўскай свабоднай эканамічнай зоне (Магілёўская СЭЗ).

Паводле гэтай дамовы, "Vakarų medienos grupė" плянуе да 2012 году пабудаваць комплекс дрэваапрацоўчых і мэблевых фабрык, які зойме плошчу 22 га. У праект прадугледжана інвэставаць больш за 77 мільёнаў эўра. Канцэрн SBA зьбіраецца на дзялянцы плошчай 6,5 га пабудаваць завод "Mebelain", плянаваныя інвэстыцыі - 43,66 мільёнаў літаў (12,65 мільёнаў эўра). Комплекс складуць заводы, якія зь мясцовай сыравіны - драўніны зь беларускіх лясоў - будуць вырабляць ДСП, корпусную мэблю і фанэру. Уся прадукцыя будзе экспартавацца, галоўны пакупнік - мэблевы канцэрн IKEA.

Улады Магілёўскай вобласьці выдзелілі на праект літоўскіх бізнэсоўцаў дзялянку зямлі плошчай 35,5 га.

Апрача гэтага "Vakarų medienos grupė" падпісала з выканкамам пратакол аб намерах наконт стварэньня лесапрамысловага кластэру, паводле якога літоўскія бізнэсоўцы разам зь Беларусьсю будуць засноўваць супольныя прадпрыемствы нарыхтоўкі лесу і лягістыкі.



**Падпісаньне дамовы зь літоўскімі бізнэсоўцамі ў магілёўскім аблвыканкаме 28 лютага 2011**

У цырымоніі падпісаньня дамовы ўдзельнічаў надзвычайны і паўнамоцны пасол Літвы ў Беларусі Эдмінас Багдонас і камэрцыйны аташэ Міністэрства гаспадаркі Літвы Эдвінас Камінскас. Старшыня аблвыканкаму П.Руднік запэўніў, што ўладныя ўстановы акажуць літоўскім бізнэсоўцам усебаковую дапамогу.

Рашэньне наконт гэтай інвэстыцыі прынялі найвышэйшыя ўлады Беларусі. На сайце Магілёўскай СЭЗ паведамляецца, што 18 лютага 2011 году Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову №204, якой абавязаў старшыню Магілёўскага аблвыканкаму П.Рудніка падпісаць дамову з "Vakarų medienos grupė".

Галоўны юрыдычны дараднік

У дзень падпісаньня дамовы дзяржаўная Беларуская тэлевізія паказала рэпартаж, дзе гэты праект быў названы найбуйнейшай інвэстыцыяй літоўскага капіталу ў Беларусі, узгадненьне якой цягнулася паўтара года. Цытаваліся літоўскія бізнэсоўцы, якія выказвалі шкадаваньне, што іх прыход у Беларусь так зацягнуўся.

На сайце Магілёўскай СЭЗ паведамляецца, што падрыхтоўка да інвэстыцыі распачалася яшчэ 26 чэрвеня 2009 году, калі ў СЭЗ як прадпрыемства-рэзыдэнт было зарэгістраванае прыналежнае "Vakarų medienos grupė" таварыства "Industri". Як і якімі сродкамі можна было паўзьдзейнічаць на Менск, каб ён менавіта цяпер блаславіў так доўга ўзгадняную дамову? - ставіць шматзначнае пытаньне літоўская газэта.

Як паведамляецца на сайце адвакацкай канторы "Bernotas & Dominas Glimstedt", пры падрыхтоўцы дамовы аб інвэстыцыях у Магілёўскай вобласьці гэтая кантора была галоўным юрыдычным дараднікам "Vakarų medienos grupė". Праект каардынавала партнэрка канторы ў Беларусі Дар'я Жук.

Як ужо паведамляла газэта LŽ, заснаваньне беларускага бюро канторы "Bernotas Dominas Glimstedt" ініцыяваў і цяпер курыруе партнэр гэтай канторы, муж былой кіраўніцы Дэпартамэнту міжнароднага права МЮ Аўшры Бярнацене Э.Бярнатас, -- нагадвае аўтарка артыкула Раса Калінаўскайце.

У той самы час, калі Савет міністраў Беларусі даручыў магілёўскаму губэрнатару П.Рудніку падпісаць дамову з кансультаванай канторай Э.Бярнатаса "Заходняй групай драўніны", Міністэрства юстыцыі Літвы вырашала пытаньне наконт выдачы інфармацыі дысыдэнтаў.

Як паведаміла МЮ, запыт Беларусі аб прававой дапамозе з просьбай даць інфармацыю пра рух грашовых сродкаў А.Бяляцкага быў атрыманы 2 лютага 2011 году.

2 сакавіка - усяго праз некалькі дзён пасьля падпісаньня інвэстыцыйнай дамовы - МЮ даслала ў банк ліст з просьбай даць патрабаваныя зьвесткі. Гэты ліст падпісала былая кіраўніца Дэпартамэнту міжнароднага права А.Бярнацене. Калі адзін з банкаў адмовіўся даць зьвесткі, А.Бярнацене выявіла неўласьцівую літоўскім чыноўнікам стараннасьць і прынцыповасьць - падпісала і зварот у суд, каб той запатрабаваў ад банку выдачу зьвестак, - гаворыцца ў артыкуле Lietuvos žinos. Здабыўшы інфармацыю праз суд, 28 сакавіка МЮ Літвы пераслала дадзеныя аб рахунках беларускіх дысыдэнтаў Міністэрству юстыцыі Беларусі.

Пасьля таго, як LŽ паведаміла пра інтарэсы адвакацкай канторы Э.Бярнатаса ў Беларусі, Найвышэйшая камісія службовай этыкі атрымала заяву дэпутата Сойму Саўлюса Стомы з просьбай правесьці расьсьледаваньне аб магчымым канфлікце публічных і прыватных інтарэсаў А.Бярнацене. Аднак А.Бярнацене зь міністэрства ўцякла, -- заўважае Раса Калінаўскайце. Пасьля таго, як А.Бярнацене звольнілася з пасады, Камісія службовай этыкі паінфармавала, што расьсьледаваньне праводзіцца ня будзе. Так што ня будзе адказу і на пытаньне, якога памеру ўзнагарода за пасьпяховую зьдзелку ў Магілёўскай вобласьці папоўніла сямейны бюджэт адваката Э.Бярнатаса і былой чыноўніцы МЮ А.Бярнацене. І ці толькі бюджэт гэтай сям'і (у Літве)? -- задае чарговае пытаньне Lietuvos žinos.

Гэтая тэма не зацікавіла і міжведамасную камісію, якой было даручана дасьледаваць гэтую гісторыю, якая спрычыніла велізарную і бадай што непапраўную шкоду міжнароднай рэпутацыі Літвы. Аднак міжведамасная камісія асабліва і не прыкідалася, нібыта шукае сапраўдных вінаватых у гэтым скандале, а Міністэрства замежных справаў нават не пачало расьсьледаваньня ў справе выдачы візы непажаданым у Эўразьвязе асобам. У заявах прадстаўнікоў улады гэты інцыдэнт, які на дзіва нагадвае цынічны гандаль, падаецца як выпадковае непаразуменьне, якое ўзьнікла з-за недастатковага супрацоўніцтва розных установаў. Аднак, як сьведчыць дамова ў Магілёве, установы супрацоўнічаюць вельмі добра. Вядома, калі адчуюць пах прыбытку, -- піша ў сёньняшняй Lietuvos žinos Раса Калінаўскайце.

*Паводле Радыё Свабода*
*28.08.2011*

# Рыхтуемся да рэвалюцыі

Катастрафічная дэвальвацыя і раптоўнае зьбядненьне беларусаў – гэта вынік ажыцьцяўленьня палітычнага праекту Масквы і антыбеларускай самадурнай палітыкі Лукашэнкі.

Фінансавы крызіс у Беларусі сплянаваны Расеяй некалькі гадоў таму. Першая мэта такой палітыкі – забраць за бясцэнак прыбытковыя беларускія прадпрыемствы, і другая – выклікаўшы зьбядненьне і беспрацоўе ў Беларусі, забраць беларускую рабочую сілу ў Расею.

Падрыў фінансавай сістэмы і эканомікі нашай краіны пачаўся з штучнага стварэньня так званых “малочных”, “мясных”, “цукровых”, “нафтавых”, “газавых” і іншых “войнаў”. Быў нанесены моцны ўдар па экспарту Беларусі, пасьля чаго пагрозьліва павялічылася адмоўнае сальда гандлёвага балансу краіны.

Наступны ўдар – гэта палітычны загон антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі ў так званы “мытны саюз” Расеі і Казахстана, эканамічна шкодны для Беларусі і выгадны Маскве. У выніку – дзяржава і насельніцтва Беларусі пазбаўлены шматлікіх крыніцаў даходу (напрыклад, гандлю аўтамабілямі) і панесьлі велізарныя страты.

З мэтай стварэньня фінансавага крызісу Крэмль спыніў таксама крэдытаваньне залежнага ад яго рэжыму Лукашэнкі, выстаўляючы непрымальныя патрабаваньні.

Фінансавы крызіс пачаўся са студзеня 2011 горда. Кропляй, якая перапоўніла чашу абвалу, было недапушчальнае павелічэньне сярэдняга ўзроўню зарплаты насельніцтва Лукашэнкам у канцы 2010 года з папулісцкай мэтай задобрыць электарат перад выбарамі.

На працягу амаль пяці месяцаў крызісу рэжым не рабіў неабходных захадаў па яго зьмякчэньні і выхаду на стабільны ўзровень. Замест гэтага зьверху ўводзіліся розныя курсы абмену валюты, правілы атрыманьня крэдытаў і крэдытнага апрацэнтаваньня. Гэта давала магчымасьць нажывацца на крызісе чыноўным асобам, набліжаным да рэжыму, і галоўнае – выцягнуць валюту з насельніцтва. Прытым людзям у пунктах абмену валюту, практычна, не прадавалі.

Галоўная задача такіх дзеяньняў – узбагаціцца рэжымна-чыноўнай мафіі і выцягнуць грошы ад беларусаў перад магчымай прыватызацыяй дзяржаўнай маёмасьці. За некалькі месяцаў такога выкарыстаньня крызісу рэжымам усе беларусы (акрамя рэжымных маніпулятараў) зьбяднелі, згарнуўся гандаль і прадпрымальніцтва. Адначасна, каб беларус лёгка не выжываў, рэжым увёў абмежаваньне на выезд за мяжу. (Адна асоба можа выехаць на машыне толькі адзін раз у пяць дзён.)

24 траўня адразу адбылася велізарная (недапушчальная па правілах) дэвальвацыя рубля. Усё насельніцтва імгненна зьбяднела больш, чым на палову (а фактычна – у некалькі разоў).

Шалёная дэвальвацыя ўдарыла па вытворчасьці, гандлю і прадпрымальніцтву, сталі скарачацца працоўныя месцы, рэзка павялічылася беспрацоўе. Беларусы пачалі масава звальняцца з працы ў Беларусі і масава выязджаць на больш аплатную працу ў Расею (праз незаконна адчыненую Лукашэнкам мяжу).

Рэалізацыя праекту Масквы па зьнішчэньні Беларусі робіцца на нашых вачах. А каб беларусы не імкнуліся потым вярнуцца з Расеі назад на Радзіму, Лукашэнка пазбавіў выяздоўцаў усяляkіх ільгот па медыцыне, сацыяльным забесьпячэньні, у аплаце за камунальныя паслугі і г. д. Словам, абы было горш беларусу ў Беларусі.

Гэтае разбурэньне можна спыніць. Шмат што яшчэ можна паправіць. Але толькі пры адной умове, якая зьяўляецца для Беларусі абсалютнай: не павінна быць Лукашэнкі ва ўладзе. Інакш ніякіх станоўчых пэрспэктываў і ніякага разьвіцьця краіны ня будзе, і крах дзяржавы стане рэальнасьцю.

Палітычная сістэма рэжыму даведзена да псіхапаталогіі і поўнага абсурду. Уся ўлада, усе рашэньні, усе пытаньні ўлады завязаныя і залежныя ад адной кіруючай неадэкватнай асобы. Зьмена ўлады, фактычна, не прадугледжана рэжымным заканадаўствам, а там, дзе засталіся фармальнасьці (выбары прэзыдэнта) праўная сутнасьць заменена беззаконьнем, фальсыфікацыяй і ўжываньнем грубай сілы. Зьмяніць уладу законным шляхам немагчыма, бо такой магчымасьці ў рамках дзеючага рэжымнага заканадаўства і яго прымяненьня -- не існуе.

Рэжым пакінуў грамадзтву, фактычна, толькі адзін рэальны шлях перамен – гэта народная рэвалюцыя і рэвалюцыйная ліквідацыя улады ўзурпатара. Гэтага ён і баіцца.

Рэвалюцыйны выбар народа быў бы у такіх умовах канстытуцыйны, законны і справядлівы. У абставінах беззаконьня і нацыянальнага вынішчэньня народ мае права на рэвалюцыю.

Рэвалюцыя сталася ў нашым несвабодным грамадзтве аб’ектыўнай неабходнасьцю (і сытуацыя высьпявае). Рыхтуймася да перамены. Наш шлях да яе – гэта найперш Беларуская нацыянальная ідэя і Беларуская салідарнасьць, гэта Беларуская мова, Беларускі Сьцяг і гэрб Пагоня, Беларуская свабода і дэмакратыя.

І памятайма галоўнае: за свабоду змагаюцца і свабоду здабываюць тыя, хто хочуць свабоды, але ня тыя, што хочуць есьці. Ідэалы – папераздзе. Толькі тады магчымая перамога. Нашыя ідэалы – гэта ідэалы 25 Сакавіка і 25 Жніўня, і вольны чалавек, і вольная Беларусь.

*2 жніўня 2011 г.*
*Зянон Пазьняк*

# Лукашэнка запрашае за «круглы стол»

29 жніўня, выступаючы перад настаўнікамі, Лукашэнка прапанаваў прадстаўнікам усіх палітычных сілаў сесьці за «круглы стол», каб выпрацаваць падыходы для паляпшэньня становішча ў краіне.

Паводле сёньняшняга кіраўніка Беларусі, «для пасьпяховага, дынамічнага разьвіцьця краіны патрэбныя не рэвалюцыя і ня вулічная анархія, а згуртаванасьць усіх грамадзянаў незалежна ад поглядаў і перакананьняў, скіраванасьць на канструктыўнае супрацоўніцтва». «Наша сіла ў адзінстве. І будучыню Беларусі трэба вырашаць не на плошчах і барыкадах, а шляхам дыялёгу, нармальнай чалавечай размовы», — дадаў ён.

А. Лукашэнка таксама заявіў, што «і Эўрапейскаму Зьвязу, іншым эўрапейскім і міжнародным структурам, хацеў бы прапанаваць і РФ, накіраваць сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў гэтым «круглым стале». Лукашэнка падкрэсьліў, што шлях санкцыяў у адносінах да Беларусі бесьпэрспэктыўны. «Давайце размаўляць, і мы прыйдзем да ўзаемаразуменьня».

---

Адзін з кіраўнікоў выбарчага штабу Андрэя Саньнікава **Віктар Івашкевіч** лічыць, што цяперашнія палітвязьні павінны таксама ўзяць удзел у прапанаваным Лукашэнкам “круглым стале”:

“Па-першае, не зусім зразумела, зь якімі сіламі Лукашэнка зьбіраецца весьці перамовы – ці з сваімі “Белай Русьсю” і БРСМ, ці з апазыцыяй? А па-другое, я лічу, што прадстаўнікі апазыцыі могуць пагадзіцца на “круглы стол” з Лукашэнкам толькі пасьля таго, як будуць вызваленыя палітвязьні. І гэтыя палітвязьні павінны таксама мець магчымасьць узяць удзел у гэтых перамовах.

Калі ж гэтага ня будзе, калі будуць сядзець палітвязьні, будуць арыштоўваць людзей на вуліцах і за сьпінамі перамоўнікаў будзе стаяць АМАП з кайданкамі і ў любы момант іх таксама пацягнуць у пастарункі – пра якія дыялёгі ідзе размова? Таму не дыялёг для таго, каб вызваліць палітвязьняў, а вызваленьне палітвязьняў як передумова…”

---

**Уладзімір Някляеў** - экс-кандыдат у прэзыдэнты, лідэр кампаніі «Гавары праўду» лічыць, што адмаўляцца ад прапановы Лукашэнкі ня трэба, тым больш, што апазыцыя сама настойвала і нават патрабавала перамоваў:

«Яшчэ падчас суду я сказаў, што адзінае выйсьце з сытуацыі сыстэмнага крызісу — толькі намаганьнямі ўсёй грамадзянскай супольнасьці. Але Лукашэнка не дагаварыў першую фразу — выпусьціць усіх палітычных зьняволеных.

Што гэта за дыялёг зь людзьмі ў турмах? Гэта прафанацыя. І калі Лукашэнка будзе і далей так гуляцца з грамадзкасьцю, з народам — ён дагуляецца ня толькі да страты ўлады, ён дагуляецца да большага — да страты нашай незалежнасьці…

І ня ён павінен вызначаць, хто з боку грамадзянскай супольнасьці і палітычнай апазыцыі павінен сесьці за стол перамоваў, а сама апазыцыя павінна вызначыцца. Ён знаходзіцца зараз у такой сытуацыі, што ня ён павінен дыктаваць, што грамадзтва і апазыцыя павінны рабіць».

---

Старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** лічыць, што зараз усё залежыць ад таго, з чаго прапануецца стартаваць, неабходна спачатку патрабаваць доступу апазыцыі да дзяржаўных СМІ, другое — умовы правядзеньня выбараў. “А калі ўсё пачнецца з заблытваньня, са стварэньня хуралаў велізарных, са стварэньня шматлікіх структур з размытым парадкам дня, то гэта будзе вельмі падобна на зацягваньне часу, на заігрываньне з Захадам, і ня больш за тое. І самае галоўнае — бязь зьменаў унутры краіны”.

# Каляндар памятных датаў на верасень 2011 году

**5 верасьня** – 110 гадоў таму, у 1901 годзе, нарадзіўся Віталь Вольскі, пісьменьнік, літаратуразнаўца (бацька Артура і дзед Лявона Вольскіх).

**7 верасьня** – Дзень беларускага пісьменства і друку.

**8 верасьня** – Дзень міжнароднай салідарнасьці журналістаў.

**9 верасьня** – 60 гадоў таму, у 1951 годзе дэсантам ў Беларусь высадзіўся дзеля змаганьня за вызваленьне Бацькаўшчыны Янка Філістовіч.

**10 верасьня** – 95 гадоў таму, у 1916 годзе , памёр у Замосьці Аляксандр Ельскі, гісторык, этнограф, краязнаўца, пісьменьнік, перакладчык, публіцыст.

**11 верасьня** – 10 гадоў таму, у 2001 годзе, быў здзейсьнены тэракт у ЗША, у выніку якога былі зьнішчаны будынкі Сусьветнага гандлёвага цэнтру ў Нью-Ёрку.

**14 верасьня** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе, у Вільні выйшаў першы нумар першай легальнай беларускай газэты "Наша доля", папярэдніцы "Нашай Нівы".

**17 верасьня** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Антон Баліцкі, грамадзка-культурны дзеяч.

**19 верасьня** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб зьмене назвы на Рэспубліку Беларусь, дзяржаўным гербам была зацьверджана "Пагоня", а сьцягам – бел-чырвона-белы сьцяг.

**25 верасьня** – 90 гадоў таму, у 1921 годзе, у Празе пачалася Беларуская нацыянальная палітычная нарада (Пражская канфэрэнцыя).

**29 верасьня** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Аркадзь Смоліч, нацыянальна-дзяржаўны дзеяч БНР, навуковец, географ , настаўнік.

## Віншаваньні

Пляменьнікі Мітрафана Бакуновіча, які жыве ў Сыднэі, Натальля, Віктар, Сафія і Елізавета са Злучаных Штатаў Амэрыкі сардэчна віншуюць свайго дзядзьку са слаўным юбілеем – 90 угодкамі ад дня народзінаў. Родныя жадаюць яму добрага здароўя, добрага настрою і нагадваюць, што з цеплынёю і ўдзячнасьцю заўсёды памятаюць пра яго.

---

Людміла Бакуновіч віншуе Кастуся Вайцехоўскага і ягоную жонку Birdie з 50 –мі ўгодкамі іхнага шчасьлівага шлюбу і зычыць ім яшчэ доўга, доўга ісьці разам жыцьцёваю дарогаю.

---

У гэтым годзе дзве нашы беларускія дзяўчыны з семьяў актыўных сяброў БАЗА з Нью-Ёрку скончылі навучаньне ў сярэдніх школах і паступілі вучыцца далей для набыцьця прафесіі.

Віншуем з гэтай важнаю жыцьцёваю зьменаю вядучую нашай рубрыкі Belarus Art Ксеню Капытка – дачку Сяргея і Тамары Капыткаў. Яна скончыла LaGuardia High School of Music and Art and Performing Arts і будзе вучыцца у State University of New York at New Paltz.

Нашыя віншаваньні пасылаем таксама Ульляне Драгакупец – дачцы Сяргея і Ганны Драгакупцаў. Яна паступіла ў Stevens Institute of Technology, каб стаць інжынерам як і ейныя абодва бацькі.

Пажадаем дзяўчатам посьпехаў у вучобе і спадзяемся, што яны і надалей будуць браць удзел у беларускім жыцьці ў Нью-Ёрку.

## Выбачэньне

Просім прабачэньня ў нашых чытачоў за недагляд, які быў допушчаны ў мінулым чэрвеньскім нумары газэты. На ст. 5 там былі зьмешчаныя два намаляваныя партрэты братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Аднак, з надрукаванага нумара газэты выпаў тэкст, дзе паведамлялася, што гэтыя партрэты па замове сп. Антона Шукелойца намалявала маладая мастачка, вядучая старонкі Belarus Art Ксеня Капытка. Зараз абодва партрэты ўпрыгожваюць грамадзкую залю пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.

## Падзяка

Вольга Саковіч выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў пошуках магілкі ейнага бацькі Юльяна Саковіча ўсім, хто да гэтага спрычыніўся - Уладзіміру Хрышчановічу, Лілеі Сазанавец, Валерыю, Яніне і Зьміцеру Мараковым, Галіне Ваўчок-Барысевіч, Сяргею Яршу, Зоі і Івану Сазанаўцам.

## На выданьне газэты " БЕЛАРУС " ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| *Л. Бакуновіч -* | $ 100 |
| *М. Дземковіч -* | $100 |
| *Н. Кіт -* | $ 50 |
| *Т. Кольба-Стагановіч -* | $ 50 |
| *В. Колас -* | $ 50 |
| *Н. Касцюк -* | $ 50 |
| *Дж. Навумчык -* | $ 50 |
| *Н. і Ў. Цяліца -* | $ 50 |
| *Н.Чупракоў -* | $ 50 |
| *А. Занковіч -* | $ 100 |
| *В. Станкевіч ( у гонар 85 –х угодкаў ад нараджэньня Янкі Запрудніка) -* | $ 50 |
| *А. Орса Рамана, В. Трыгубовіч, В. Дворнік (у гонар 85 –х угодкаў ад нараджэньня Янкі Запрудніка) -* | $ 200 |

***Шчыра дзякуем усім ахвярадаўцам!***



БЕЛАРУС
Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
BIELARUS
Belarusan Newspaper in the Free World
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.
Склад Рэдакцыі:
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты
Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.
Адрасы Рэдакцыі:
Паштовы адрас:
Hazeta Bielarus
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432
USA
Грашовыя чэкі выпісываць на імя : BIELARUS newspaper
дасылаць скарбніку на адрас : T.Krasovskaya
PO BOX 1958, New York, NY, 10025
Электронны адрас (email):
bielarus@bazahq.org
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэкламадаўца.